**№ 67 (3808)**

27 жніўня 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог
Выходзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

СКАНДАЛ

# Гэта вайна?

***У Мінску затрыманы гендырэктар "Уралкалия" Уладзіслаў Баўмгертнер. Гэта ён абвясціў пра разрыў расійскага вытворцы мінеральных угнаенняў з "Беларускай калійнай кампаніяй". У Мінск спадар Баўмгертнер прыехаў па запрашэнні старшыні ўрада Міхаіла Мясніковіча.***

Уладзіслаў Баўмгертнер затрыманы як старшыня назіральнай рады «Беларускай калійнай кампаніі», шэраг кіраўнікоў БКК абвешчаны ў вышук, у тым ліку праз Інтэрпол, а вось былы гендырэктар кампаніі Валерый Іваноў пайшоў на павышэнне і стаў намеснікам кіраўніка Адміністрацыі беларускага прэзідэнта. Гісторыя сапраўды скандальная і дзіўная.

Як паведамляе прэс-служба Следчага камітэта, крымінальную справу за злоўжыванне ўладай і службовымі паўнамоцтвамі пачала Генеральная пракуратура. Па справе праходзяць старшыня назіральнай рады БКК Уладзіслаў Баўмгертнер, сябра назіральнай рады Алег Пятроў, першы намеснік гендырэктара Канстанцін Саладоўнікаў, намеснік гендырэктара па фінансах Ігар Яўстратаў, начальнік фрахтавага аддзела Дзмітрый Самойлаў і іншыя.

Падставай паслужылі матэрыялы пра відавочныя злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі ў карыслівых мэтах. Гэта пацягнула істотную шкоду дзяржаўным і грамадскім інтарэсам Беларусі. А шкода «Беларуськалію» і БКК ацэньваецца ў асабліва буйным памеры.



Уладзіслаў Баўмгертнер быў затрыманы ў Мінску. Пятроў, Саладоўнікаў, Яўстратаў і Самойлаў абвешчаны ў вышук, у тым ліку па лініі Інтэрпола.

**У ТЭМУ**

Расійскія супрацоўнікі Беларускай калійнай кампаніі дружна вырашылі пакінуць яе. Пра гэта тыдзень таму паведаміў генеральны дырэктар «Беларуськалія» Валерый Кірыенка. «Пасля заявы «Уралкалия» аб разрыве адносін з БКК кожны расійскі спецыяліст напісаў заяву аб пераводзе ва «Уралкалий», — расказаў Кірыенка. Ён адзначыў, што "Беларуская калійная кампанія" была кампаніяй з менеджментам Расіі, нягледзячы на тое, што дырэктар прызначаўся беларускім бокам. Кірыенка нават заклікаў расіян прыехаць у Мінск, каб вырашыць усе пытанні. Ну, вось Баўмгертнер і прыехаў.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

НАРЭШЦЕ

## Чакаем на волі!



Актывісты з усёй Беларусі з'едуцца ў сераду 28 жніўня ў Гродна, каб сустрэць на волі Зміцера Дашкевіча, які ў гэты дзень павінен выйсці з турмы.

— Людзі збіраюцца з усёй Беларусі. Усё ж такі тры гады чалавек адседзеў, і мне здаецца, будзе шмат ахвочых прыехаць і сустрэцца з ім, — расказвае гродненец Яўген Скрабатун.

Зміцер Дашкевіч правёў 986 дзён у турме, большую частку з іх — у адзіночных камерах.

Па звестках "Народнай Волі", у бліжэйшыя ж выхадныя Зміцер Дашкевіч і Наста Палажанка (Дашкевіч) возьмуць шлюб. Нагадаем, што афіцыйна яны сталі мужам і жонкай у той жа гродзенскай турме. Але, паколькі з'яўляюцца людзьмі шчыра веруючымі, лічаць, што трэба змацаваць сямейны саюз перад Богам.

ПАЛІТВЯЗНІ

## Уладзімір Яроменак зноў ідзе на суд

Былога палітвязня Уладзіміра Яроменка зноў чакае вязніца. Згодна з позвай, ён мусіць быць у Першамайскім судзе сталіцы 28 жніўня — акурат у той дзень, калі лідар арганізацыі Зміцер Дашкевіч мусіць выйсці на волю. Па судах Уладзімір вымушаны хадзіць проста ў рэжыме нон-стоп: толькі атрымаў трохмесячны арышт за парушэнне правілаў нагляду, як распачынаецца новы працэс.

Нагадаем: Уладзімір Яроменак быў пакараны трыма гадамі зняволення за Плошчу-2010. 11 жніўня 2011 года яго вызвалілі, згодна з указам Аляксандра Лукашэнкі аб памілаванні.

Пасля таго як Уладзіміра пакаралі арыштам на тры месяцы, знайшліся асобы, якія казалі, што хлопец і сапраўды вінаваты, бо некалькі разоў супрацоўнікі міліцыі не заспелі яго дома падчас праверкі. Сам Яроменак кажа, што ў яго былі на гэта прычыны:

*— Для мяне сям'я, мае родныя значна важней за нейкія працэдурныя моманты. Мая бабуля была вельмі хворая, яе паралізавала, і мы ведалі, што ёй жыць засталося нядоўга. Я пісаў заяву ў міліцыю з просьбай даць мне магчымасць праведаць бабулю, з'ездзіць дадому* (Уладзімір Яроменак родам з Міёраў. Там ён скончыў школу і паступіў у сталічны Універсітэт інфарматыкі і радыёэлектронікі. — **Прым.аўт**.), *але безвынікова. Потым, калі бабуля памерла, я таксама прасіў адпусціць мяне на пахаванне. Вынік быў такім жа. Але я ўсё роўна паехаў, бо інакш паступіць не мог. А тое, што ў рапартах напісана наконт таго, што яны "грукалі ў дзверы і глядзелі на вокны", мяне асабліва і не здзіўляе.*

***— За той час, што ты быў пад наглядам, ты паспеў нават ажаніцца і паступіць на вучобу ў Польшчу. Цяпер гэтым планам не здзейсніцца?***

*— Так. Давядзецца згубіць яшчэ адзін год. Я ж скончыў два курсы і потым два разы аднаўляўся на трэцім, і два разы запар мяне адлічалі. А тут з'явілася магчымасць паехаць у Польшчу працягнуць навучанне. І вось зноў з-за гэтага арышту не атрымліваецца.*

***— Навошта спатрэбіўся новы суд? Ужо ж далі тры месяцы арышту.***

*— Я лічу, што гэта абумоўлена хутчэй за ўсё трыма прычынамі: хочуць паказаць, што трымаюць руку на пульсе і ўсе былыя палітвязні "пад каўпаком", хочуць нагадаць напярэдадні выхаду Зміцера Дашкевіча, што маюць дастаткова рэпрэсіўных механізмаў, ну і папросту не даць мне магчымасці сустрэць Зміцера ля турэмнай брамы ў Гродне.*

**Любоў ЛУНЁВА.**

ВІЗАВІ

*Пётр ПРАКАПОВІЧ:*

## "Прадавайце беларускае"



Віцэ-прэм'ер **Пётр ПРАКАПОВІЧ** расказаў прыватнаму бізнесу пра яго задачы.

Па-першае, у наступнай пяцігодцы забяспечыць 50 працэнтаў валавога ўнутранага прадукту (цяпер гэта каля 20 працэнтаў). Па-другое, параіў прадпрымальнікам заняцца вытворчасцю і гандляваць айчыннай прадукцыяй, а не скардзіцца на новы тэхнічны рэгламент Мытнага саюза адносна прадукцыі лёгкай прамысловасці.

*«Прадпрымальнікі ўздымаюць пытанне пра гэты тэхрэгламент, заяўляюць, што, паводле яго, ім немагчыма працаваць. А як можна без элементарных дакументаў прадаваць прадукцыю, што тычыцца бяспекі жыцця і здароўя чалавека? Калі яны кажуць, што так не могуць працаваць, няхай гандлююць беларускай прадукцыяй, няхай прадаюць беларускія панчохі, шкарпэткі»,* — заявіў Пётр Пракаповіч на пасяджэнні Савета па развіцці прадпрымальніцтва.

*Ірына ЯСКЕВІЧ:*

## "Немагчыма!"





Старшыня арганізацыйнай групы па стварэнні беларускага прафсаюза "Разам" прадпрымальніца **Ірына ЯСКЕВІЧ** лічыць такія заявы чыноўніка пустымі:

*— Мы будзем гандляваць тым, што мае попыт у людзей. Бо няма ніякага сэнсу гандляваць тым, што немагчыма прадаць. Кожны павінен разумець, што нават зусім маленечкі бізнес немагчыма прымусіць разгружаць склады той вытворчасці, якая напрацавала на склад. І калі фірменныя крамы прадпрыемстваў без усіх нацэнак і надбавак не могуць прадаць свой тавар, то як мы зможам яго прадаць, калі нам зробяць яшчэ базавую надбаўку на гэты тавар?*

ПУЛЬС

## Госць здалёк

Прэзідэнт Дэмакратычнай Сацыялістычнай Рэспублікі Шры-Ланка Махінду Раджапаксе прыбыў з афіцыйным візітам у Беларусь.

Гэта першы візіт у Беларусь дэлегацыі такога ўзроўню са Шры-Ланкі.

Беларусь і Шры-Ланку дыпламатычныя адносіны звязваюць з 2000 года. Для пашырэння гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва дзвюх краін у канцы красавіка Шры-Ланку наведвала дэлегацыя беларускіх дзелавых колаў. Бакамі прапрацоўваецца магчымасць арганізацыі ў Шры-Ланцы зборачных вытворчасцяў беларускай тэхнікі. Акрамя таго, Шры-Ланка праяўляе зацікаўленасць у развіцці навукова-тэхнічнага супрацоўніцтва з Беларуссю. Дарэчы, зараз у нашай краіне навучаюцца 262 ланкійскіх студэнта, у тым ліку 185 чалавек — у Віцебскім дзяржаўным медыцынскім універсітэце.

## Камітэт ААН прызнаў скаргу брэстчан

Камітэт па правах чалавека ААН прызнаў парушанымі правы дэмакратычнай супольнасці Брэста датычна свабоднага выяўлення меркаванняў і свабоды мірных сходаў.

У ААН звярнуліся актывісты Ірына Лаўроўская, Дзяніс Турчаняк, Валерый Фамінскі і праваабаронца Раман Кісляк.

Па словах Рамана Кісляка, скарга ўзнікла ў сувязі з забаронай на правядзенне пікетаў па розных пытаннях, звязаных з усталяваннем помніка да 1000-годдзя Брэста:

— Пікеты былі забаронены на той падставе, што вызначана толькі адзінае месца для пікетавання — стадыён «Лакаматыў». А былі заяўлены пікеты на вуліцы Гогаля, непадалёк ад таго месца, дзе меркавалася ўсталяваць гэты помнік. Вядома, абскарджванне ў самой краіне не дало вынікаў, пасля чаго ў канцы 2009 года скарга была накіравана ў Камітэт па правах чалавека ААН.

Раман Кісляк лічыць, што такое рашэнне Камітэта — гэта крок па ліквідацыі агульнай праблемы для ўсіх гарадоў Беларусі — забароны пікетаў уладамі. Аднак мы ўжо маем прыклады, калі афіцыйны Мінск проста ігнаруе вердыкты ААН. Механізмаў уплыву і прымусу гэта арганізацыя не мае.

## Не забудзьцеся прышпіліць рэмень

Карыстанне рамянямі бяспекі стане абавязковым для ўсіх пасажыраў. У тым ліку для тых, што едуць на заднім крэсле альбо ў трэцім радзе мікрааўтобуса.

Штрафаваць за парушэнне гэтага правіла будуць кіроўцу. На першы раз паездка пасажыра без рэменя бяспекі абыдзецца кіроўцу ў 100 тысяч рублёў. У наступны — ад 200 да 500 тысяч.

Гэта ненаваўвядзенне. Паводле правіл, калі аўтамабіль абсталяваны рамянямі бяспекі, то прышпільвацца абавязаны кожны пасажыр. Выключэнні робяцца для ўладальнікаў старых аўтамабіляў "Жыгулі" ці "Масквіч".

## Фэст не ўдаўся, удзельнікаў затрымалі

У мінулыя выхадныя ў Вілейскім раёне затрымалі каля сотні ўдзельнікаў фэсту Burning summer open air.

Фэст з удзелам рок-гуртоў пачаўся ў суботу каля вёскі Асіповічы і павінен быў працягвацца два дні. Але, як паведаміла адна з удзельніц мерапрыемства гамяльчанка Жанна Міхеева, каля 19.00 з'явілася міліцыя і ДАІ. Гурты спынілі выступленне, а ўдзельнікаў фэсту пачалі затрымліваць і адвозіць у Вілейскі РАУС без тлумачэнняў, за што.

У Вілейскім РАУС паведамілі, што моладзь была затрымана за адміністрацыйныя правапарушэнні — распіццё спіртных напояў і лаянку.

SOS!

## Ялінка Салаўёва зноў адна ў класе...

*Адзіная ў Магілёве беларускамоўная вучаніца Ялінка Салаўёва сёлета, як і ў папярэднія тры гады, у класе будзе адна. Бацькі намагаюцца знайсці дачцэ аднакласнікаў, аднак жадаючых вучыцца па-беларуску ў 400-тысячным горадзе пакуль не знаходзіцца.*



Сёлета Ялінка Салаўёва пойдзе ў чацвёрты клас. 1 верасня ёй уручаць дыпломы за перамогі на алімпіядах па матэматыцы, рускай і беларускай мовах, а таксама па прадмеце «Чалавек і свет». Бацькі ж манціруюць відэаролік са зваротам да магіляўчан, якія, магчыма, хочуць аддаць дзяцей у клас з беларускай мовай навучання, але ніяк не наважацца. Відэаролік збіраюцца растыражаваць у сацыяльных сетках інтэрнэту.

*«Мы вырашылі не ісці ў гарадскі аддзел адукацыі, бо гэта як ілбом аб сцяну. Людзі самі павінны зрабіць свой выбар. Мы ж хочам паказаць перавагі»*, — гаворыць маці Ялінкі Надзея Салаўёва.

Ці ёсць заявы ад бацькоў на навучанне іх дзяцей на беларускай мове, дакладна не вядома. У прыёмнай аддзела адукацыі адной з раённых адміністрацый Магілёва паведамілі, што спецыяліст, які займаецца гэтым пытаннем, у адпачынку, а сакратарка другога аддзела сказала, што такіх заяў, паводле яе звестак, не было.

ПАДЛІЧЫЛІ

## Бедныя мы, бедныя

Паводле даных Нацыянальнага статыстычнага камітэта Беларусі, у першым паўгоддзі гэтага года намінальная налічаная сярэднямесячная заработная плата работнікаў галіны сельскай гаспадаркі склала 402,8 долара. І гэта не самы малы паказчык.

Намінальная налічаная сярэднямесячная заработная плата ў сферы рыбалоўства і рыбаводства за студзень—чэрвень гэтага года склала ў эквіваленце 388 долараў.

Яшчэ менш, паводле той жа справаздачы Белстата, у першым паўгоддзі бягучага года зарабілі работнікі гасцініц і рэстаранаў — 387,6 долара, а таксама работнікі, занятыя ў сферы адукацыі, — 373,2 долара.

У сістэме аховы здароўя і прадастаўлення сацыяльных паслуг заработная плата ў першым паўгоддзі гэтага года склала 397,9 долара.

ЧУЛІ?

## Вайна з дзікамі

Дырэктар Інстытута эксперыментальнай ветэрынарыі імя С.М.Вышалескага **Анатоль Гусеў** заявіў, што для больш эфектыўнай барацьбы з АЧС трэба знішчыць у Беларусі ўсіх дзікоў.

Паводле яго слоў, небяспека АЧС ў Беларусі будзе існаваць да таго часу, пакуль у лясах жыве дзікі кабан. *«Рызыка ўзнікнення новых выбухаў гэтага захворвання існуе, пакуль дзікі не знішчаны»,* — гаворыць Анатоль Гусеў.

Як вядома, у краіне ўжо прымяняюцца меры для зніжэння колькасці дзікіх кабаноў і ў радыусе 20 кіламетраў ад ачага ўспышкі АЧС будзе знішчана ўсё пагалоўе дзіка.

ПАЛІТКУХНЯ

## Па прыкладзе Лукашэнкі

*Як лічыць тэрмін знаходжання на пасадзе старшыні партыі? Рэвізійная камісія Партыі БНФ вырашыла гэтае пытанне па прыкладзе Аляксандра Лукашэнкі.*

Справа ў тым, што ў верасні 2011 года на партыйным з'ездзе былі ўнесены змены ў статут партыі і тэрмін знаходжання адной асобы на пасадзе старшыні партыі абмежавалі. Паколькі ад прэзідэнта дэмакраты ўвесь час патрабуюць, каб ён займаў пасаду не больш за дзве пяцігодкі, то і да свайго кіраўніцтва вырашылі ўжыць той жа падыход. Два тэрміны і не болей!

Змены ў статут прымаліся аднachасова з абраннем **Аляксея Янукевіча** на пасаду старшыні партыі. Прычым Янукевіч ужо быў на гэтай пасадзе чалавекам не новым, заступаў на варту па другім разе.

Дык ці азначае гэта, што на бліжэйшым з'ездзе, які павінен адбыцца ў 2014 годзе, балатавацца на пасаду старшыні Аляксей Янукевіч больш не мае права? Такім пытаннем задаўся старшыня Гродзенскай абласной арганізацыі Партыі БНФ **Вадзім Саранчукоў** і задаў яго рэвізійнай камісіі.

Не, не азначае. Аказваецца, адлік тэрмінаў старшыні партыі трэба весці з моманту ўнясення змен у статут. А ўсё, што было раней, не ўлічваецца.

Нагадаем, што калі аналагічным чынам, прыняўшы ў 1996 годзе змены ў Канстытуцыю, падоўжыў свае паўнамоцтвы Аляксандр Лукашэнка, то Партыя БНФ была ў ліку тых, хто сцвярджаў, што гэта незаконна. Але цяпер "па справе Янукевіча" рэвізійная камісія мае іншы погляд.

Такім чынам, атрымліваецца, што партыйцы пайшлі на тыя ж маніпуляцыі, за якія некалі крытыкавалі прэзідэнта.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

ПРАЦЯГ ТЭМЫ

## Разрасліся да абсурднага

***Прачытаў размову Міхаіла Чыгіра і Станіслава Багданкевіча і проста не магу паверыць: няўжо мы сапраўды маем столькі ж міністэрстваў, колькі такія вялікія дзяржавы, як Расія ці Казахстан?***

**Міхаіл Тапаркоў, Мінск.**

| | Беларусь | Расія | Казахстан |
|---|---|---|---|
| Прэм'ер-міністр | 1 | 1 | 1 |
| Віцэ-прэм'еры | 5 | 7 | 4 |
| Міністры | 24 | 21 | 16 |

Такім чынам, спадар Міхаіл, ваша вызначэнне «столькі ж» не падыходзіць. Па колькасці міністэрстваў Беларусь апынулася нават наперадзе Расіі і Казахстана. А вось па колькасці віцэ-прэм'ераў нас апярэдзіла Масква. Але... Там, напрыклад, ёсць віцэ-прэм'ер, паўнамоцны прадстаўнік прэзідэнта на Паўночным Каўказе. Статус віцэ-прэм'ера таксама мае кіраўнік апарату ўрада. І тут нічога дзіўнага: ўсё ж такі гэтая краіна працягнулася ад Балтыйскага мора да Ціхага акіяна. А ў астатнім па бюракратызме мы – краіна, якую ад мяжы да мяжы праедзеш за паўдня, — і Расію абагналі.

Нельга не звярнуць увагу і на тое, што і ў расійскім, і ў казахстанскім урадах ёсць міністры, якіх у беларускім па розных прычынах няма.

Напрыклад, наш зямляк Міхаіл Абызаў (нарадзіўся ў Мінску) з'яўляецца расійскім міністрам па сувязях з «адкрытым урадам». Пры нашай сістэме ўлады ні такога міністра, ні такога «ўрада» з вядомых экспертаў нават не праглядаецца.

А яшчэ ў іх ёсць міністр па развіцці Далёкага Усходу, міністр рэгіянальнага развіцця. Нам такія навошта? І тым не менш Беларусь апярэдзіла і Расію, і Казахстан па колькасці тых, хто мае міністэрскі партфель. Чаму? Якіх міністэрстваў няма ў Расіі і Казахстане, а мы чамусьці іх трымаем?

Ва ўсіх трох краінах ёсць міністэрствы ўнутраных спраў, аховы здароўя, замежных спраў, абароны, адукацыі, прыродных рэсурсаў (у Казахстане, праўда, яно называецца «аховы навакольнага асяроддзя»), сельскай гаспадаркі, транспарту і камунікацый, працы і сацыяльнай абароны, фінансаў, эканомікі, па надзвычайных сітуацыях, а таксама юстыцыі.

Такім чынам, маем 13 супадзенняў. А вось далей — рознагалоссе.

Ні ў Расіі, ні ў Казахстане няма міністэрстваў архітэктуры і будаўніцтва, жыллёва-камунальнай гаспадаркі, лясной гаспадаркі, па падатках і зборах, гандлю, прамысловасці.

Хаця ясна, што тыя ж падаткі ва ўсіх краінах збіраюцца. Вось толькі падатковая служба не з'яўляецца самастойным ведамствам, а ўваходзіць у склад Міністэрства фінансаў. Што, пагадзіцеся, вельмі лагічна.

Ці вось, напрыклад, будаўнікі і гандаль аб'яднаны пад адным дахам з Міністэрствам прамысловасці, лясная гаспадарка аднесена да Мінпрыроды... Таксама цяжка спрачацца з тым, што такое рашэнне мае рацыю.

У Казахстане ўвогуле няма міністра спорту, але краіна неяк выжывае. Міністэрствы культуры і інфармацыі там аб'яднаны ў адно ведамства, але таксама і газеты выходзяць, і тэатры не закрываюцца. У Расіі Мініінфармацыі ўваходзіць у склад Міністэрства сувязі, і, як бачым, краіна не засталася без СМІ.

Такім чынам, мы сапраўды жывём на шырокую нагу, трымаючы столькі міністэрстваў і міністраў, як ніхто... Тым больш што ні на Расію, ні на Казахстан нам няма чаго нават раўняцца.

А трэба раўняцца, напрыклад, на Літву, дзе ўсяго 14 міністэрстваў (параўнайце з нашымі 24!), ці на Латвію, дзе 15 міністраў, але зусім няма віцэ-прэм'ераў. Нават цяпер, калі Аляксандр Лукашэнка абвясціў Год эканоміі і беражлівасці і нарэшце загаварыў пра неабходнасць скарачэння дзяржапарату, зрабіць замах на колькасць міністэрстваў ён не асмеліўся.

**Алена ДАВЫДАВА.**

РЕГІОН

# Вывозили ночью

С птицефабрики «Особино» пытались вывезти трактор протухших тушек. ОБЭП проводит проверку.

Пресс-служба УВД Гомельского облисполкома подтвердила задержание «гнилого груза».

Инцидент произошел в ночь после того, как Департамент ветеринарного и продовольственного надзора Беларуси официально объявил о результатах служебного расследования фактов падежа птицы на государственной птицефабрике «Белоруснефть-Особино». По результатам расследования, напомним, инфекционных заболеваний птицы не обнаружено, но падеж вызван грубыми нарушениями технологического процесса выращивания бройлеров и бесхозяйственностью.

Материалы расследования направлены в прокуратуру Гомельской области для дачи правовой оценки действиям директора и исполняющего обязанности главного ветеринарного врача птицефабрики «Белоруснефть-Особино».

Сами проверки стали сотрясать птицефабрику после того, как неделю назад работник птицефабрики «Белоруснефть-Особино», расположенной в агрогородке Коммунар Буда-Кошелевского района, разместил в интернете видео с рассказом об ужасающем положении дел на фабрике.

ПАДЛІЧЫЛІ

# Па-за шлюбам

На Магілёўшчыне больш за 38% дзяцей нараджаюцца ў няпоўных сем'ях.

Белстат падлічыў колькасць дзяцей, якія летась нарадзіліся па-за шлюбам. Іх было крыху больш за 21 тысячу чалавек. На такім узроўні гэтая лічба трымаецца ўжо 10 гадоў. Пры гэтым пазашлюбныя дзеці — з'ява больш распаўсюджаная на вёсцы. Калі ў гарадах доля пазашлюбных дзяцей складае 15,8%, то ў вёсках дасягае 26%.

Сярод вясковых жыхароў найменш пазашлюбных дзяцей на Брэстчыне — 17,3%, а найбольш — усё на той жа Магілёўшчыне. Іх доля складае 38,1%.

СІТУАЦЫЯ

# Прафесар Швед: "Мае былыя вучні пабаяліся ўзяць мяне на працу"

Вясной гэтага года грымнуў скандал у Гродзенскім дзяржаўным універсітэце: навучальнай установе аказаўся не патрэбны вядомы ў краіне гісторык, доктар навук, прафесар Вячаслаў Швед. Спачатку яго звольнілі з пасады загадчыка кафедры беларускай культуры і рэгіянальнага турызму, а потым увогуле здарылася нешта незразумелае, што не паддаецца логіцы, — Савет універсітэта не абраў Шведа на пасаду прафесара па конкурсе.

Вучоны звярнуўся да выкладчыкаў універсітэта з адкрытым лістом, у якім заявіў, што лічыць сваё звальненне «палітычным рашэннем — помстай за выдадзеную кнігу «Гродназнаўства. Гісторыя еўрапейскага горада».

Звальненне Шведа не стала прэцэдэнтам. Рэпрэсіі ў дачыненні да «нядобранадзейных» гісторыкаў у Гродзенскім дзяржаўным універсітэце пачаліся яшчэ ў 2012 годзе, калі з ВНУ быў звольнены яшчэ адзін аўтар кнігі "Гродназнаўства" Андрэй Чарнякевіч.

У сакавіку 2013-га ў знак пратэсту супраць ціску на калег з універсітэта звольніўся выкладчык кафедры тэорыі дзяржавы і права Ігар Кузьмініч.

Як склаўся лёс выкладчыкаў пасля звальнення? Дзе вучоныя працуюць сёння?

Пагутарыць атрымалася толькі з Вячаславам Шведам. Яго калегі зараз знаходзяцца ў Польшчы на вучобе, збіраюцца пісаць навуковыя працы, дысертацыі: у Беларусі ні Чарнякевіч, ні Кузьмініч працы не знайшлі.

— Перажыўшы шок пасля звальнення, цяпер імкнуся на ўсё глядзець больш спакойна, — кажа Вячаслаў Швед. — Пасля таго як быў занесены ў "чорны спіс", у Гродне працы для мяне няма, нідзе не бяруць. Павыганялі з усіх праектаў, у якіх быў задзейнічаны. Адзін праект універсітэцкі, які, дарэчы, я пачынаў, ідэі былі мае, другі ладзіўся ў гарвыканкаме. Але пасля звальнення запрасіў начальнік аддзела гарвыканкама і выбачаўся: яму загадалі ад мяне пазбавіцца.




Спрабаваў уладкавацца ў некалькі школ Гродна: дырэктараў амаль усіх добра ведаю, я ж 30 гадоў выкладаў ва ўніверсітэце, некаторыя мае былыя студэнты. Яны шчыра кажуць: "Прабачце, Вячаслаў Вітальевіч, возьмем вас — выганяць нас". Ад адчаю думаў нават дворнікам у заапарк ісці, там сябра працуе. Але ён замахаў рукамі: "Ты што, я цябе так паважаю! Ну як прафесар можа быць дворнікам?!"

**— Але ж жыць за нешта трэба?**

— Ад пошукаў працы не адмаўляюся. Акрамя таго, магу займацца любімай справай — пісаць кнігі. Сэнсам жыцця для мяне заўсёды была папулярызацыя гісторыі.

Шчыра кажучы, вельмі дапамагла людская салідарнасць. Калі ўсё гэта здарылася — у сакавіку-красавіку не было спакою ад тэлефанаванняў, інтэрнэтаўскіх лістоў. Пісалі са ўсёй Беларусі, з Амерыкі, Ізраіля, хаця, як я жартаваў, я — не яўрэй, я — Швед. Многія падтрымлівалі. Напрыклад, тэлефануе незнаёмы чалавек са Шчучына і кажа: "Чытаю вашы кнігі, мне падабаецца. Я майстар, раблю рамонты, калі вам патрэбны рамонт, прыеду і ўсё зраблю бясплатна". Ці яшчэ адна сітуацыя. Званок у дамафон: "Вячаслаў Вітальевіч, спусціцеся, калі ласка". Выходжу, стаіць незнаёмы чалавек і працягвае слоік мёду: "Гэта вам, каб здароўе было моцнае..." Не аднойчы мне прыходзілася нават супакойваць тых, хто тэлефанаваў, так шчыра яны перажывалі маё звальненне. "Гэта, канешне, нечакана, непрыемна, — казаў я, — але вы патэлефанавалі, падтрымалі, і я ўжо ведаю, што паступіў правільна і зрабіў бы так надалей".

Калегі па ўніверсітэце таксама перажывалі, званілі, выказвалі спачуванні.

**— Але ж рашучых дзеянняў не прадпрымалі...**

— А я не крыўдую, я іх вельмі добра разумею. Калі восенню 2012 года звольнілі Андрэя Чарнякевіча, выкладчыкі напісалі ліст у яго падтрымку. І што? Андрэя ўсё роўна звольнілі, а падпісанты трапілі ў "чорны спіс", пра які ўзгадваў старшыня Гродзенскага райвыканкама Сямён Шапіра ў сакавіку на сустрэчы з выкладчыкамі ўніверсітэта. Ён тады казаў, што яму вядома пра 16 чалавек, якія " заклікаюць скінуць уладу".

...Сітуацыя, канешне, жахлівая, здзеклівая. Ні я, ні Чарнякевіч, ні Кузьмініч працу ў Беларусі знайсці не можам. Не падабаюцца нашы погляды, звольнілі нас з універсітэта, але ж нельга забараняць чалавеку жыць. Бо жыццё — гэта і ёсць праца. Галоўны чыноўнік вобласці Сямён Шапіра заявіў, што мы нядобранадзейныя, і ўсе выканаўцы ўзялі пад казырок.

**— А якая зараз сітуацыя ва ўніверсітэце? Новых звальненняў не было?**

— Не хачу быць злым прарокам. Але яшчэ адзін аўтар "Гродназнаўства" Віталь Карнялюк атрымаў папярэджанне. У чэрвені ў яго заканчваўся кантракт, і яго падоўжылі толькі на год. Усім зразумела, чаму яго пакінулі, не выкінулі зараз. Віталь кіруе міжнародным праектам, і, калі яго звольніць з універсітэта, праект тады здымаецца, і трэба плаціць 20 працэнтаў ягонага кошту Еўропе. А 20 працэнтаў ад 1 мільёна 200 тысяч — гэта 240 тысяч еўра. Таму вырашылі Карнелюка пакінуць на гэты год, а потым, думаю, і ад яго пазбавяцца. Дай Бог, каб я памыляўся.

Месяц таму звольнілася яшчэ адна падпісантка ліста ў абарону Чарнякевіча — выкладчыца кафедры культуралогіі Вольга Сабалеўская. Напісала заяву па доглядзе за маці і перайшла працаваць у другую ўстанову. Думаю, што Вользе з яе поглядамі было складана заставацца ва ўніверсітэце.

**— Вячаслаў Вітальевіч, а дзе зараз працуе былы рэктар ГрДУ Яўген Роўба, які быў зняты з пасады менавіта падчас гэтых скандальных звальненняў?**

— Сітуацыя была якая: 1 сакавіка адбылася змена рэктара. Таварыш Шапіра, прадстаўляючы калектыву новага рэктара, многа гаварыў пра 16 чалавек са спіса, пра рэктара Роўбу, пра звальненне Чарнякевіча. Мне падаецца гэта неразумным: ну калі ты нават робіш такое, то навошта крычаць на ўвесь універсітэт: "Я зняў рэктара, я выгнаў Чарнякевіча"? Непрыгожа гэта. Ды і ўвогуле, сёння яго рукамі травяць нас, а потым могуць выкінуць і яго самога... А Роўбу з пасады рэктара знялі з фармулёўкай "за плохую идеологическую и воспитательную работу".

**— Менавіта так?**

— Я не ведаю, ці запісана канкрэтна такая фармулёўка ў ягонай працоўнай кніжцы, але што сутнасць была такая, казаў наш "губернатар". Яўген Аляксеевіч зараз працуе ва ўніверсітэце, кіруе кафедрай прыкладной матэматыкі і адказвае за падрыхтоўку юбілею ўніверсітэта, які будзе адзначацца ў 2015 годзе.

**— І апошняе пытанне: кніга "Гродназнаўства", якая, па сутнасці, стала падставай для звальненняў, забаронена ў Беларусі? Ці яе можна дзе-небудзь набыць?**

— Можна пачытаць у інтэрнэце, на сайце kamunikat.org.

Летам мінулага года, калі яна толькі з'явілася, адбылася шырокая прэзентацыя, нават на тэлебачанні паказвалі інтэрв'ю са мной. Кніга прадавалася ў крамах. А потым сталі выклікаць у КДБ, падатковую інспекцыю. Казалі, што кніга надрукавана ў падпольным выдавецтве ў Польшчы. Хаця свет яна ўбачыла ў друкарні Уроцлаўскага аддзялення Акадэміі навук Польшчы. Цікавіліся, чаму кніжка спынілася на 1991 годзе, чаму ў ёй не адлюстраваны найноўшы час. На што я адказваў: адлюстраванне, аналіз сённяшніх працэсаў у грамадстве — гэта паліталогія, гісторыяй гэты час стане крышку пазней. І ўрэшце, паказвалі карцінкі з бел-чырвона-белым сцягам: чаму, маўляў, ён тут ёсць, ён жа забаронены? Мае тлумачэнні, што ў той час, пра які ідзе аповед у кнізе, гэты сцяг быў дзяржаўным, што яго зацвердзіў Вярхоўны Савет Беларусі, што на яго фоне даваў прысягу ў 1994 годзе прэзідэнт Лукашэнка, ніхто не слухаў...

Я ж нічога не прыдумваў, я пісаў тое, што было. Сёння ў нас вядзецца барацьба з гістарычнай памяццю. Гісторыя, мова — гэта галоўныя нашы здабыткі, без чаго не можа існаваць нацыя. Як можна ад іх адмовіцца? Што, аддадзім усё палякам, літувісам, а нам нічога не трэба?! Будзем правінцыяй Расіі?! І мае сааўтары пішам праўду, але, відаць, яна сённяшнім кіраўнікам не надта патрэбная. Таму нас трэба выкінуць і не даваць нават смецце падмятаць. Але мы выкараскаемся. Дзякуй Богу, і сям'я ў мяне ёсць, і дзеці, і ўнукі. Сумую, канешне, па педагагічнай працы, усё ж такі 30 гадоў выкладаў у Гродзенскім дзяржаўным універсітэце, многа яму аддаў, медаль нават далі за адданасць ГрДУ. А потым праз два месяцы выкінулі з універсітэта... Бог ім суддзя.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

АКТУАЛЬНО

# Будет ли дорожать охрана квартир?

*В конце минувшего месяца сотрудница почты, принимающая платеж за коммуналку, вдруг поинтересовалась: «А охрану квартиры оплачивать будете? А то некоторые отказываются, узнав, что начислено значительно больше, чем в прошлом месяце...»*

*Выяснилось, что Департамент охраны МВД повысил тарифы.*

*Будет ли еще дорожать охрана квартир?*

*Позволяют ли нынешние тарифы Департаменту охраны получать какую-то прибыль?*

*И в какой стране СНГ дешевле поставить квартиру на сигнализацию?*

*На эти и другие вопросы «Народной Воле» ответила специалист финансово-экономического управления Департамента охраны МВД Республики Беларусь* ***Ирина Павловец.***

**— Ирина Владимировна, если не ошибаюсь, Департамент охраны сначала увеличил цены, а затем только через пару недель письменно уведомил об этом своих клиентов. Наверняка было немало вопросов: мол, откуда взялись такие цифры?**

— Да, нам пришлось отвечать на звонки с вопросами по поводу роста тарифов на услуги, на которые были даны исчерпывающие ответы...

**— Позволяют ли нынешние тарифы вашему ведомству получать какую-то прибыль? И стоит ли в ближайшем будущем ожидать еще одного подорожания?**

— Тарифы рассчитываются на основе плановых расходов, предусмотренных бюджетной классификацией Республики Беларусь, с учетом всех видов установленных законодательством налоговых и неналоговых платежей, без планирования прибыли.

Рост тарифов на наши услуги зависит от изменения тарифной ставки первого разряда для оплаты труда работников бюджетной сферы, устанавливаемой Совмином, а также от изменений условий и размеров оплаты труда, утверждаемых Минтруда и МВД. Согласно постановлению Совмина, повышение цен на работы и услуги, в отношении которых установлено ценовое регулирование, осуществляется только по решению Комиссии по вопросам государственного регулирования ценообразования. Так, с июля тарифы на услуги по охране квартир, помещений, жилых домов с личным имуществом граждан (пультовая охрана или осуществление контроля за состоянием средств тревожной сигнализации) были повышены ***до 50.000 рублей в месяц. Если в квартире стоит, например, и тревожная кнопка, и охранная сигнализация, то в месяц придется платить 75.000***. Рост этих тарифов в ближайшее время не планируется.

**— По сравнению с другими странами это дорого или нет?**

— Стоимость охраны одной квартиры в России разная. К примеру, в Краснодарском крае при минимальной оценке имущества — 280 российских рублей (в пересчете на наши деньги по курсу Нацбанка — 75 тысяч), одного жилого дома — 1398 российских рублей (в пересчете на белорусские — 378 тысяч).

В Москве стоимость охраны квартиры в месяц при минимальной стоимостной оценке имущества составляет 650 российских рублей (порядка 175 тысяч белорусских рублей). Кроме того, с россиян взимается ежемесячная плата за техническое обслуживание установленных средств и систем охраны.

В Украине (Донецк) плата за охрану квартиры — 120—250 гривен (примерно 130—270 тысяч).

**— Не секрет, что многие бегут ставить квартиру на сигнализацию после того, как в доме побывали воры. А кто-то учится на чужих ошибках... Сколько человек за год заключают с Департаментом охраны договоры на охрану своих жилищ?**

— В настоящее время охраняется более 166 тысяч квартир и жилых домов с личным имуществом граждан. За минувший год с просьбой установить сигнализацию и заключить договоры на оказание охранных услуг к нам обратились более 14 тысяч человек.

**— Бывают ли случаи, когда люди отказываются от установленной ранее сигнализации в квартирах, мотивируя это слишком высокой платой?**

— Да, бывают. В период повышения тарифов количество расторгаемых договоров, исходя из сложившейся практики, увеличивается на 10—15%.

**— В последнее время некоторые ЖЭСы за просроченную на один день оплату коммунальных услуг отключают свет. Как действует Департамент охраны, если кто-то забывает вовремя оплатить его услуги?**

— В соответствии с действующим законодательством мы можем расторгнуть договор, если наш клиент имеет задолженность по оплате более чем за два месяца. Правда, предварительно мы письменно об этом уведомляем.

**Марина КОКТЫШ.**

АСОБА

*Эльжбета СМУЛКОВА, першы пасол Польшчы ў Беларусі:*

# "Калі моладзь загаворыць, то беларуская мова будзе жыць..."

*Днямі ў Мінску адбылася нефармальная сустрэча з вядомай беларусісткай і славісткай, першым Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Польшчы ў Беларусі прафесарам Эльжбетай Смулковай.*

*"Народная Воля" занатавала самыя цікавыя пытанні і адказы замежніцы, чый лёс так моцна звязаны з Беларуссю.*

## Лёс чалавека ды краіны

Спадарыня Смулкова цудоўна валодае беларускай мовай. Дарэчы, рускую ёй давялося вывучыць яшчэ ў дзяцінстве. Яна нарадзілася ў Львове, але пасля 1939 года разам з сям'ёй яе вывезлі ў сібірскую тайгу. У Польшчу атрымалася вярнуцца толькі пасля вайны. Тады Эльжбета захапілася філалогіяй. У тым ліку і беларускай славістыкай.

З 1990-га па 1995 год спадарыня Смулкова жыла ў Мінску, займаючы пасаду Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Польшчы — першай краіны, якая прызнала незалежнасць Беларусі. Якімі былі гэтыя часы? І як адчувала сябе ў віры палітычных падзей таго часу жанчына, навуковец?

— *Мая праца паслом — эпізод, у неабходнасці якога мяне пераканалі міністр замежных спраў Кшыштаф Скубішэўскі і іншыя людзі, якіх я шанавала,* — прызналася спадарыня Смулкова. — *Я ніколі не прымала гэтай функцыі з думкай, што буду займацца палітыкай. Быў час змены сістэмы ў Польшчы. Час, калі нам здавалася, што Беларусь пойдзе ў падобным напрамку. Мяне пераканалі, што сюды павінен паехаць чалавек, які зможа мець нейкі кантакт з краінай, які нешта пра яе ведае. Згадзілася, але толькі на адну кадэнцыю. Калі мяне прасілі застацца, я падзякавала, але адмовілася. Мне важна было займацца сваёй праблематыкай: мовай, культурай. Не быць нейкім рэпрэзентантам без магчымасці дзеяння.*

Апошнія 10 гадоў спадарыня Эльжбета на пенсіі. Да гэтага яна выкладала ў Варшаўскім універсітэце.

— *Статус прафесара ў нас усё яшчэ даволі высокі,* — распавядае яна. — *Але за гэтым не ідзе высокі матэрыяльны дабрабыт. Людзі ўсё яшчэ шануюць прафесуру, але ведаюць, што яна мае куды горшыя магчымасці, чым, скажам, добры электрык, гідраўлік, механік. Вялікай розніцы з савецкім часам я не бачу. Хіба вось што можна сказаць: за савецкім часам шанавалі тых прафесароў, якіх хацелі, а не тых, хто мае веды. А цяпер самае галоўнае, каб ты быў разумным чалавекам.*

## Палякі хацелі забраць Беларусь?

На нефармальную сустрэчу з пані Эльжбетай, якую арганізаваў Лятучы ўніверсітэт, прыйшло некалькі дзясяткаў чалавек. Сярод іх шмат моладзі, якую цікавілі часам вельмі правакацыйныя пытанні. Напрыклад, ад маладога навукоўца прагучала згадка пра тое, што ў 1991 годзе палякі нібыта раздумвалі, ці не высунуць прэтэнзіі на свае былыя тэрыторыі. Чытай — на Беларусь.

— *Перадусім хачу задаць пытанне вам: адкуль вы ведаеце, што ў нас былі такія настроі — вярнуць землі, забраць кавалак Беларусі, вярнуцца да Kresow Wschodnich?* — здзівілася пані прафесар. — *Адкуль вы гэта ўзялі? Выбачайце, але розніца ва ўзросце дазваляе мне сказаць, што вас не зусім добра вучылі. У польскім грамадстве не было такіх настрояў, каб мець нейкія прэтэнзіі да ўсходніх земляў. Маглі быць сентыментальныя ўспаміны. І гэта нармальна, бо палякі жылі тут з пакалення ў пакаленне. Мае бацькі і дзяды таксама нарадзіліся на землях, якія цяпер не належаць Польшчы. Калі б мы хацелі браць усход, трэба было б адмовіцца ад захаду.*

*Вы прабачце за мой жарт, што вас дрэнна вучылі. Але вось чаму маю права так казаць. Памятаю, калі я ўжо працавала тут пасля 1991 года, у Польшчы пачалі выходзіць розныя кніжкі якраз пра так званыя Kresy Wschodnie. Брашуры адносна Слоніма, Слуцка, Турава. І я памятаю, як беларусы самых лепшых перакананняў прыходзілі да мяне і пыталіся, якое права мы маем друкаваць гэтыя кнігі. Я тлумачыла: "Людзі, нам нельга было за савецкім часам гэтага пісаць. Нават гаварыць пра гэта. Не здзіўляйцеся, што цяпер, калі большая свабода, яны з'яўляюцца. Бо палякі, што паходзяць з гэтых земляў з пакалення ў пакаленне, з XVI стагоддзя, а мо і раней, жадаюць мець нейкую гістарычную інфармацыю пра гэты край".*

*Некаторым такіх тлумачэнняў хапала. Некаторым — не...*



## Чаму беларусы не размаўляюць па-беларуску?

Спадарыню Эльжбету як даўняга і блізкага сябра Беларусі папрасілі выказаць сваё меркаванне аб важных і балючых пытаннях. Зрэшты, трохі сорамна было пытаць у беларусісткі з Польшчы, чаму ў нашай краіне людзі не размаўляюць на роднай мове.

— *У свой час беларуская эліта паланізавалася або русіфікавалася,* — выказалася спадарыня Смулкова. — *З мовай застаўся толькі просты вясковы народ. І дзякуючы гэтаму народу мова трывае.*

*Зараз дайшло да таго, што руская мова стала для многіх першай. Беларускія патрыёты, а не толькі людзі абыякавыя, гавораць на рускай мове з дзяцінства, бо іх бацькі так гаварылі. І гэта нялёгка адмяніць. Гэта можна было зрабіць пасля ўзнікнення самастойнай дзяржавы і самае большае 10—12 гадоў пасля яе ўтварэння. Тады былі спрыяльныя ўмовы. А ў сённяшняй сітуацыі беларускую мову проста застаецца берагчы, каб яна жыла як другая. Мовазнаўцы не любяць варажыць, і я не магу з упэўненасцю сказаць, што мова не вернецца. Калі моладзь загаворыць, то беларуская мова будзе жыць. Калі не — не будзе...*

Што ж рабіць? Можа, яшчэ не позна змяніць сістэму? Магчыма, варта пачаць з адукацыі. Але што ў першую чаргу павінны аб сабе вучыць беларусы, каб выхаваць нацыянальную годнасць, адказнасць? На жаль, адказ ад пані прафесара не надаў аптымізму.

— *Вы самі павінны адказаць на гэтае пытанне,* — канстатавала спадарыня Смулкова. — *Тут ніхто, нават даволі блізкі вам (а я сябе такой лічу), не зможа вырашыць такія праблемы. Думаю, дапамогай вам можа быць гісторыя. Але гісторыя па магчымасці праўдзівая.*

*Каб адказаць на гэтае пытанне, мне спатрэбіўся б тыдзень. Можа, нават і кнігу трэба было б напісаць. Але гэтага я зрабіць ужо не паспею, бо маю іншыя тэмы. Я фактычна перакананая, што не маю права гаварыць на гэтую тэму...*

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

СТАЛІЦА

# Чаму бунтуюць людзі?

*Паведамленні пра лакальныя канфлікты жыхароў сталічных мікрараёнаў з гарадскімі ўладамі нагадваюць звесткі з франтоў. Амаль паўсюль, дзе плануюцца новыя будоўлі, людзі ўспрымаюць гэтыя планы ў штыкі.*

Можна ўзгадаць спробы забудовы вуліцы Цнянскай каля Камароўскага рынку, уздоўж Свіслачы, бізнес-цэнтр на перакрыжаванні вуліц Веры Харужай і Гая, спартыўны комплекс у парку Дружбы народаў, шматпавярховік у двары дамоў на вуліцы Каліноўскага, гатэль "Пекін", клуб аматараў бегу на вуліцы Цікоцкага ў Зялёным Лузе... Гэта не ўвесь спіс.

Цяпер самыя гарачыя кропкі знаходзяцца на вуліцы Калініна, дзе будуюць новыя дамы літаральна ў некалькіх метрах ад старых; у Курасоўшчыне, дзе плануецца ўзвесці тры шматпавярховікі ў скверыку на тэрыторыі дзіцячай бальніцы; канфлікт узнік вакол аўтасалона "AUDI" ў ваенным гарадку на праспекце Незалежнасці; не сціхаюць жарсці і вакол так званага ўшчыльнення ва Уруччы-2.

Можа скласціся ўражанне, што ў Мінску ўжо нельга пачаць ніякую новабудоўлю, бо абавязкова знойдуцца тыя, каму яна стане замінаць; што людзі ўжо самі не ведаюць, чаго хочуць. Карэспандэнт "Народнай Волі" накіравалася ў некалькі такіх "гарачых кропак", каб высветліць: у чым жа прычына канфліктаў?

...Жыхарам Курасоўшчыны давялося свой сход праводзіць на вуліцы. 21 жніўня яны сабраліся ў скверыку дзіцячай бальніцы, каб выказаць свой пратэст супраць будаўніцтва на гэтай тэрыторыі шматпавярховікаў.

Галоўнага ўрача бальніцы, як высветлілася, лёс сквера не цікавіць. Прадстаўнікі райвыканкама і мясцовы дэпутат праігнаравалі запрашэнне людзей прыйсці на сход (як высветлілася, другі раз запар). Затое прыйшлі супрацоўнікі міліцыі і людзі ў цывільным, якіх, зразумела, ніхто не запрашаў.

Жыхарка мікрараёна Інеса Карпялевіч кажа:

— Я думаю, што галоўнага ўрача не цікавіць лёс сквера таму, што яна сама не жыве ў гэтым раёне і яе тут мала што кранае. А мы нават у Міністэрства аховы прыроды ўжо скардзіліся. Паглядзіце, блакітныя елі раслі — і што з імі здарылася? Так парушана экалогія, што ўжо дрэвы не вытрымліваюць. А тут жа дзеці ляжаць хворыя, ім і без таго няма чым дыхаць. І вось на гэтым маленькім кавалачку зямлі, літаральна перад вокнамі, хочуць пабудаваць шматпавярховікі! Іншага месца няма?..

*Вунь ліпы пасадзілі ўздоўж вуліцы Кіжаватага. Яны дзесяць гадоў растуць. А зараз усё трэба спілаваць, каб пабудаваць тыя дамы. Ці можна так рабіць? Чаму не прыйшоў сюды наш дэпутат? Для чаго яго выбіралі?! Мы ж думалі, што ён будзе адстойваць нашы інтарэсы. Крыўдна гэта ўсё. Некаторыя кажуць, што нічога не дасць наш сход, што проста няма сэнсу накіроўваць сабраныя подпісы ўладам, што даўно нікому не цікава наша меркаванне. Але ж надзея памірае апошняй.*

Дарэчы, некалькі паверхаў першага дома ў Курасоўшчыне ўжо пабудавалі. Не ведаю, як на гэтым месцы людзям будзе жыцца без дрэў, але ці дадасць камфорту тое, што вокны будынка выходзяць на дзіцячы морг?

...23 жніўня жыхары мікрараёна "Уручча-2" сустракаліся з прадстаўнікамі адміністрацыі Першамайскага раёна. Тут эпапея супрацьстаяння жыхароў з уладамі цягнецца яшчэ ад 2005 года. Тым не менш два дамы, супраць якіх змагаліся жыхары, ужо пабудаваны. Цяпер распачынаецца будаўніцтва яшчэ чатырох. На сходзе кіпелі жарсці. З дакладам выступіла архітэктар Галіна Горына, якой жыхары раёна замовілі зрабіць новы разлік. Яна прааналізавала ўсе лічбы, патлумачыла, адкуль бярucца тыя ці іншыя паказчыкі, і давяла да аўдыторыі свае высновы. Асноўная з іх — ні пра якое ўшчыльненне не можа нават весціся гаворка, раён перанаселены.

Прамову эксперта аўдыторыя ўспрыняла такімі авацыямі, якія нячаста пачуеш нават у тэатры. А вось рэакцыя чыноўнікаў была іншай, але на прапанову пакінуць трыбуну архітэктар сказала: *"Ведаеце, непрыемна перарабляць чужую непісьменную працу. Але... Тут былі запраектаваны 2500 парковак. Дзе яны? Праезды вузкія — ні праехаць, ні прайсці. Яны ж не мяняліся з 1980-х гадоў! Дзе запланаваныя падземныя гаражы? Дзе помпавая станцыя? Чаму так і не пабудавалі новую трансфарматарную станцыю?.."* Далей да трыбуны пацягнуліся жыхары, і па чарзе адзін за адным задавалі непрыемныя пытанні чыноўнікам. Нават калі сход абвясцілі закончаным, людзі ўсё трымалі "адказных асоб" у зале і выказвалі ім свае прэтэнзіі. Больш за дзясятак супрацоўнікаў міліцыі назіралі за тым, што адбываецца, але абышлося без затрыманняў. Хаця часам здавалася, што бакі вось-вось пойдуць урукапашную.

КАМПЕТЭНТНА

## Як сацыяльнае пытанне ператвараецца ў палітычнае?

Змаганне з уладамі далёка не заўсёды дае станоўчыя вынікі, але такія выпадкі ёсць. Трэба толькі, каб нехта дапамагаў людзям у іх намаганнях. І такія людзі з'явіліся.



Каардынатар грамадзянскай ініцыятывы "**Еўраперспектыва**" **Віктар Янчурэвіч** не без гонару кажа, што ў некаторых лакальных канфліктах людзям удалося перамагчы, дзякуючы зладжаным сумесным дзеянням. З 2008 года разам з жыхарамі мікрараёна "Усход-2" Віктар бараніў Севастопальскі парк. Потым ён сам і яго сябры прыйшлі да высновы, што трэба аб'яднацца. Так, у 2011-м з'явілася грамадзянская ініцыятыва "Еўраперспектыва". Віктар Янчурэвіч кажа:

— *Яшчэ ў 2004 годзе ўздоўж вуліцы Славінскага былі выкапаны катлаваны пад будаўніцтва шматпавярховых дамоў. Але дзякуючы арганізаваным дзеянням мясцовых жыхароў будаўніцтва было спынена, і на тым месцы зроблена дзіцячая пляцоўка. На гэтым спробы забудовы Севастопальскага парку не спыніліся, і ўлады перыядычна спрабуюць прасунуць розныя праекты. Але людзі зблізіліся, і цяпер у мікрараёне ёсць моцная ініцыятыўная група, якая трымае руку на пульсе.*

***— Спачатку казалі, што перамагчы ў такіх канфліктах немагчыма, бо ўлады баяцца стварыць прэцэдэнт. Але то там, то тут жыхарам удаецца перамагчы, і будаўнікі сыходзяць.***

— *Канешне, гэтая перамога можа быць часовай. Але настроі людзей змяніліся. Калі раней "ушчыльненне", здавалася б, тычылася выключна жыхароў таго квартала, дзе планавалася будаўніцтва, то цяпер на месца чарговага канфлікту прыходзяць людзі, якія раней сутыкнуліся з такой жа праблемай у сваім мікраёне. Прыходзяць даць параду, выказаць сваю салідарнасць.*

***— Я асабіста магу засведчыць, што на першым жа сходзе жыхароў у Курасоўшчыне гучалі нават палітычныя лозунгі. Трансфармацыя ад "гэта выключна сацыяльнае пытанне" да "гэта пытанне палітычнае" адбылася неяк непрыкметна. Як гэты працэс развіваўся?***

— *Пытанні, звязаныя з ушчыльненнем, заўсёды моцна хвалююць людзей. Людзі дабіваюцца галоснасці і празрыстасці, а чыноўнікі, разумеючы, якая будзе рэакцыя, імкнуцца рабіць усё кабінетна, па-ціхаму, выключаючы з працэсу абмеркавання і прыняцця рашэння грамадскасць. Даволі часта людзі даведваюцца пра маючае адбыцца будаўніцтва толькі тады, калі ўжо бачны яго прыкметы — пачынаюць пілаваць дрэвы, агароджваць пляцоўку, рыць катлаван... Людзі звяртаюцца ў розныя інстанцыі. На сходах з прадстаўнікамі адміністрацый раёнаў яны не бачаць свайго дэпутата. Людзі пачынаюць цікавіцца, чаму яго няма, гучаць пытанні, навошта такія дэпутаты, якія і не збіраюцца выконваць сваю асноўную функцыю — прадстаўляць інтарэсы людзей. У палеміцы з чыноўнікамі пачынаюць гучаць воклічы, што іх трэба адправіць у адстаўку. Усё часцей гучаць заклікі ствараць камітэты самакіравання...*

*Атрымліваецца, што наступствамі ўшчыльнення з'яўляюцца новыя сацыяльныя канфлікты і падрыў даверу людзей да ўлады. Ёсць станоўчы момант — людзі, якія раней жылі ў шматпавярховых дамах, віталіся з суседзямі па пад'ездзе і пры гэтым не былі знаёмыя адзін з адным, аб'яднаўшыся супраць агульнай небяспекі, пачынаюць камунікаваць паміж сабой і больш інтэгруюцца ў грамадства.*

**Любоў ЛУНЁВА.**

Народная Воля http://www.nv-online.info 27 ЖНІЎНЯ 2013 г.

ПУЛЬС ПЛАНЕТЫ

## Министр обороны США: мы готовы к действиям

Министр обороны США заявил, что американская армия готова на решительные действия в отношении Сирии, если президент Обама решит, что такие действия необходимы. В воскресенье в ходе своего визита в Малайзию Чак Хейгел заявил, что Вашингтон и его союзники определяются с линией поведения в отношении Сирии, после того как стало ясно, что в стране было применено химическое оружие.

## ООН начинает расследование

Расследование утверждений о применении химического оружия в Сирии нельзя откладывать ни на час, заявил в понедельник 26 августа, выступая в Сеуле, генеральный секретарь ООН Пан Ги Мун.

Инспекторы ООН уже начали расследование в Сирии — в том числе и в пригороде Дамаска, где, по словам сирийской оппозиции, в результате химической атаки 21 августа погибли более 1300 человек. Команда из 20 экспертов посетит пять объектов, на время их работы объявлено прекращение огня.

По данным медиков из организации “Врачи без границ”, в минувшие выходные к ним на лечение поступило более 3600 человек с симптомами отравления химическими веществами. 355 из них скончались.

Обе стороны конфликта свою причастность к атакам отрицают. Улики, свидетельствующие о применении химического оружия в Сирии, очевидно, уже уничтожены, полагает британский премьер Кэмерон. И он, и Ангела Меркель практически не сомневаются в виновности режима Асада.

## Самые точные

Сотрудники Национального института стандартов США разработали часы на основе атомов иттербия, которые в 10 раз превосходят все существующие аналоги по точности.

## Суды над лидерами «Братьев мусульман» и Мубараком перенесены на осень

Первое заседание в процессе против бывших лидеров исламистского движения «Братья мусульмане», начавшемся в Каире в воскресенье 25 августа, продолжалось лишь несколько минут. Судья принял решение перенести разбирательство на 29 октября, поскольку, как сообщает Reuters, подсудимые “из соображений безопасности” не были доставлены в зал суда.

Духовного лидера движения “Братья мусульмане” Мухаммеда Бадиа и его ближайших заместителей Рашада Баюми и Хайрата аш-Шатера обвиняют в подстрекательстве к насилию, которое привело к человеческим жертвам в ходе протестных акций 30 июня 2013 года.

Одновременно в египетской столице началось новое рассмотрение дела экс-президента страны Хосни Мубарака, которого обвиняют в причастности к убийству 800 демонстрантов во время событий “арабской весны”. Бывший глава государства был доставлен в суд из военного госпиталя, где он находился под домашним арестом по решению временного правительства страны. Вместе с Мубараком перед судом предстали два его сына — Алаа и Гамаль, которых обвиняют в коррупции.

Через несколько минут после начала заседания судья заявил о переносе слушаний на 14 сентября.

## Житель Швейцарии выиграл 93,6 миллиона евро в лотерее EuroMillions

Это рекордный для этой страны выигрыш, хоть он и вдвое меньше, чем удачная ставка анонима из Великобритании.

Один лотерейный билет стоит два евро. Всего участниками лотереи являются около 200 миллионов человек в десятке стран Евросоюза.

Первый тираж лотереи EuroMillions прошел 13 февраля 2004 года в трех странах — Франции, Испании и Великобритании. В октябре 2004 года к лотерее присоединились еще шесть стран — Люксембург, Бельгия, Швейцария, Португалия, Ирландия и Австрия, напоминает РИА “Новости”.

Нынешний выигрыш — крупнейший в истории Швейцарии. В 2011 году другой швейцарец выиграл в EuroMillions более 58 миллионов евро.

В мае этого года анонимный победитель из Великобритании выиграл более 81 миллиона фунтов (почти 95 миллионов евро). В августе 2012 года выигрыш в размере 148 миллионов фунтов стерлингов (190 миллионов евро) достался еще одному жителю Великобритании.

СЕКРЕТНЫЕ МАТЕРИАЛЫ

# Никсон призывал Брежнева изменить мир сообща

*Президент США Ричард Никсон призывал советского лидера Леонида Брежнева «изменить мир», работая сообща, в ходе неформальной беседы в Белом доме перед началом исторического саммита в июне 1973 года. Об этом свидетельствует тайно сделанная запись их беседы, обнародованная на днях.*

Разговор двух лидеров был записан с помощью скрытой системы звукозаписи, которой Никсон пользовался для фиксации своих разговоров в период с февраля 1971-го по июль 1973 года.

Никсон и Брежнев беседовали около часа с глазу на глаз в присутствии лишь одного переводчика 18 июня 1973 года. В ходе разговора они касались и личных тем, в том числе семейных.



«Мы должны признать, что мы оба возглавляем крупнейшие мировые державы, и хотя, естественно, в ходе переговоров у нас будут определенные разногласия, важно, чтобы наши страны работали вместе там, где это возможно», — сказал Никсон Брежневу. «Если мы решим работать вместе, мы сможем изменить мир. С такой позиции я приступаю к нашим переговорам», — заявил президент США.

Иногда их диалог походил на беседу старых друзей. Так, советский лидер рассказал о своих предрассудках и личных привычках. Вспомнив о русской примете, Брежнев сказал, что, когда он вылетал из Москвы, шел дождь, и назвал это хорошим знаком. И «вдвойне хорошим знаком» было то, что дождь шел, когда он прилетел в Вашингтон, заметил советский руководитель.

Никсон заинтересовался портсигаром Брежнева со встроенным таймером, который не позволял ему открываться, если после вынимания предыдущей сигареты не прошло определенное время. «Это способ дисциплинировать себя», — заметил Никсон.

Брежнев, извиняясь, сказал, что хотел взять с собой в США и некоторых членов своей семьи, но его жена заболела, а внук должен был готовиться к вступительным экзаменам в университет. Он выразил надежду на заключение «джентльменского соглашения» по ключевым вопросам и развитие «настоящих, прочных отношений между нашими двумя странами».

Эта беседа интересна тем, что в ней явно проявляется дух товарищества, сказал Люк Нихтер из отделения Техасского университета A&M в Центральном Техасе, который ведет онлайн-каталог секретных записей Никсона. «Заклятые враги “холодной войны” разговаривают, как старые друзья. — говорит он. — Это очень необычно».

**Леонид КРАВЦЕВИЧ.**

УРОКИ ИСТОРИИ

# 45 лет назад советские танки прошли по Праге

*45 лет назад, 21 августа 1968 года, войска пяти государств — участников Организации Варшавского договора — вторглись в Чехословакию. Это положило конец реформам «Пражской весны». О значении событий тех лет, об их последствиях и главных уроках корреспондент Русской службы «Голоса Америки» побеседовал с заведующим отделом истории славянских народов Центральной Европы Института славяноведения РАН* ***Борисом Носовым.***

**— Насколько этот момент оказался важным как для государств, войска которых приняли участие во вторжении, так и в целом в масштабах всемирной истории?**

— Разумеется, это было очень значительное событие для всей Восточной и Центральной Европы. Люди в Чехословакии и других странах-союзниках СССР восприняли вторжение как трагедию. До этого, несомненно, теплились надежды на то, что необходимые прогрессивные реформы общественного устройства будут проведены не только в Чехословакии, но и в Советском Союзе, Польше, других социалистических странах.



Ввод войск ряда стран Варшавского договора в Прагу поставил крест на этих надеждах. Стало ясно, что прекратила существование идея об ограниченном суверенитете социалистических стран, о трактовке социалистического интернационализма в том духе, что все важнейшие вопросы будут решаться коллективно братскими коммунистическими партиями. По существу, все решалось в Кремле на уровне Политбюро. Это со всей очевидностью продемонстрировало наступление того периода в нашей истории, который в дальнейшем получил название «эпохи застоя».

Мне думается, что главный урок тех лет в следующем: события в Чехословакии положили начало трансформации общественного сознания в странах социалистического лагеря. Трансформация эта развивалась в направлении перехода от идей совершенствования социализма — к идеям антикоммунизма.

Все оппозиционные реформистские силы, которые до 1968 года связывали совершенствование общественного строя и улучшение жизни народов в наших странах с подлинным марксизмом, с ценностями истинного социализма, с идеями «социализма с человеческим лицом» впоследствии постепенно отказались от марксизма как от общественного учения.

Собственно говоря, этот переход завершился уже в 1980-е годы, а наивысшей точкой антикоммунистических настроений в Советском Союзе и ряде других стран стали «бархатные революции» 1980—1990-х. Все вместе взятое привело к крушению СССР и социалистического строя в нашей стране. В известной мере символично то, что годовщина ввода советских танков в Прагу совпала с годовщиной крушения планов ГКЧП в августе 1991 года.

**— Позиция западных стран, в частности США, могла тогда как-то кардинально повлиять на ситуацию — например, помочь добиться вывода войск из оккупированной Чехословакии?**

— Западные страны, разумеется, осудили акцию стран Варшавского договора, но сделали это исключительно с международно-правовой точки зрения. Это было осуществлено в рамках союза восточно-европейских стран, в рамках существовавших между ними договоренностей и в рамках разделения мира на две системы, которые сложились после Второй мировой войны. Поэтому, осуждая вторжение войск Варшавского договора в Чехословакию, западные страны не предприняли и не могли предпринять каких-то действий, направленных против Советского Союза и его союзников. Это грозило развязыванием Третьей мировой войны. Никто бы на это не решился.

ПРОИСШЕСТВИЯ

# Сплясал в трусах на крыле авиалайнера Ангелы Меркель

Власти в Германии расследуют курьезный инцидент, в ходе которого полуголый мужчина сумел пробраться на борт правительственного авиалайнера, которым пользуются первые лица государства, в том числе канцлер Ангела Меркель. Нарушитель устроил на лайнере настоящий погром.

Нейтрализовать хулигана удалось лишь общими усилиями полиции, частных охранников с собаками и военных. Чрезвычайное происшествие случилось еще месяц назад, однако известно о нем стало лишь сейчас, после того как полицейские отчеты об этом событии случайно попали в прессу.

В частности, о произошедшем сообщила берлинская газета Welt am Sonntag. По ее данным, инцидент случился в ночь на 25 июля. 24-летний мужчина по имени Волкан Т. проник в пилотскую кабину авиалайнера Airbus 319, стоящего на закрытой военной части аэропорта в Кельне.

При себе у мужчины имелась сумка, напичканная наркотиками -- таблетками экстази и марихуаной. Сам нарушитель, как свидетельствуют отчеты, находился под воздействием наркотических средств. Тем не менее он смог убедить охрану аэропорта в том, что арендовал офицерскую столовую под свадебный банкет и ему нужно осмотреть помещение.

Затем он перелез через забор из колючей проволоки на взлетно-посадочную полосу и забрался на крыло правительственного аэробуса А-319, которым пользуется немецкое руководство. Там мужчина разделся до трусов и принялся танцевать, после чего открыл аварийный выход в фюзеляже, который оказался не заперт, и проник внутрь.

В кабине пилота дебошир принялся жать на разные кнопки, чем привел в действие аварийный трап и разбрызгал пену из огнетушителя по сиденьям в салоне, а также невольно включил сигнал тревоги, который был зарегистрирован службами безопасности аэропорта около девяти часов вечера.

Через час в воздушной гавани был объявлен наивысший уровень тревоги. Однако задержать нарушителя удалось только спустя несколько часов. Для этого пришлось задействовать все службы от полиции до военных, которые окружили самолет и, используя мегафон, призывали нарушителя сдаться.

В полночь правоохранители решились на крайние меры и пустили в ход собак. Уже через семь минут злоумышленник был задержан. Он получил два укуса ноги и был отправлен в психиатрическую клинику.

Сообщается, что это был культурист турецкого происхождения. На допросе он рассказал, что незадолго до происшествия с самолетом поссорился со своей девушкой.

Ущерб, нанесенный хулиганом, оценивается в 100 тысяч евро. Кроме того, по данным газет, самолет был полностью заправлен и мог преодолеть расстояние до Пекина, если бы нарушитель знал, как им управлять.

У СУСЕДЗЯЎ

## Чаму расце папулярнасць Польшчы сярод замежных турыстаў

Сёлета Польшчу наведала на 7% больш замежных турыстаў, чым летась. Яланта Грус з Польскай арганізацыі турызму тлумачыць, што найбольшым інтарэсам сярод турыстаў з-за мяжы, апрача мора і гор, карыстаецца гарадскі турызм.

Замежныя госці часта наведваюць Кракаў. Апрача таго, расце цікавасць да актыўнай формы турызму і бізнес-турызму. Сёлета пераважалі госці з Вялікабрытаніі, Нямеччыны і Італіі. Паводле меркавання спецыялістаў Міністэрства турызму, рост цікавасці да Польшчы — гэта вынік эфектыўнай рэкламы краіны падчас чэмпіянату Еўропы па футболе „Еўра-2012”.

У сваю чаргу прадстаўнікі польскіх турыстычных арганізацый тлумачаць, што замежных турыстаў прыцягваюць таксама даступныя цэны. Правесці адпачынак у Польшчы, апрача іншаземцаў, вырашае таксама ўсё больш суайчыннікаў.

## Конь за паўмільёна еўра



2 мільёны 75 тысяч еўра заплацілі пакупнікі за 22 арабскіх коней на аўкцыёне “Pride of Poland”, які адбыўся ў Янаве-Падляскім. Самым дарагім набыткам стала кабыла з Міхалова El Saghira, якую купілі за паўмільёна еўра. Яе гаспадаром стаў жыхар Аб’яднаных Арабскіх Эміратаў. Яшчэ за двух коней пакупнікі заплацілі па 400 тысяч еўра. Самыя прыгожыя “польскія арабы” паедуць у Швецыю, Аўстрыю, Вялікабрытанію, Францыю, Кувейт, Саудаўскую Аравію і Нямеччыну.

Самы дарагі набытак падчас Дзён арабскага каня ў Янаве-Падляскім быў зроблены ў 1985 годзе. За каня па мянушцы Пеніцылін амерыканец заплаціў 1,5 млн долараў. Дні арабскага каня ў Янаве-Падляскім прайшлі сёлета ў 43-і раз.

## “Капернік” наведала ўжо 3 мільёны гасцей

Варшаўскі цэнтр навукі "Капернік", які пачаў працу летась у лістападзе, наведалі ўжо 3 млн гасцей. Улады горада не хаваюць свайго задавальнення. Установа стала адным з самых папулярных аб’ектаў у польскай сталіцы.

Будаўніцтва цэнтра каштавала больш за 100 млн. долараў, большасць з якіх — сродкі Еўрапейскага Саюза. ЦНК з’яўляецца супольнай ініцыятывай варшаўскай мэрыі, Міністэрства навукі і вышэйшай школы, а таксама Міністэрства нацыянальнай адукацыі. Сярод шасці пастаянных экспазіцый, якія можна пабачыць у “Каперніку”, найбольшай папулярнасцю карыстаюцца выставы “Карані цывілізацыі”, “Чалавек і навакольнае асяроддзе”, а таксама “Свет у руху”. Кожную з іх наведвае каля 90% гасцей цэнтра.

**Падрыхтаваў да друку Алесь ДРАБЧУК.**

СЛЫШАЛИ?

# Путин пригрозил Киеву

Владимир Путин прокомментировал ситуацию, сложившуюся в торговых отношениях России и Украины, и объяснил, что грозит украинским партнерам в случае ассоциации с ЕС — в этом случае Таможенному союзу придется принимать «защитные меры». Это заявление было сделано сразу после инцидента с задержанием украинского экспорта на границе с Россией, так называемой «торговой войны», которая пока находится в стадии «таможенного перемирия».

«Если наши соседи пойдут на существенную либерализацию таможенного режима с Евросоюзом, то на рынок Украины действительно неизбежно хлынут товары достаточно неплохие по качеству и по цене, но это приведет к тому, что они будут выдавливать с собственно украинского рынка товары именно украинского производства», — цитирует Путина ИТАР-ТАСС.

«Тогда странам Таможенного союза (Россия, Беларусь, Казахстан) придется подумать о защитных мерах», — резюмировал Путин.

Еврокомиссия обеспокоена ужесточением таможенных процедур со стороны России в отношении украинского экспорта. Представитель еврокомиссара по вопросам торговли Джон Клэнси заявил, что “любые экономические угрозы России, направленные против Украины и связанные с возможным подписанием страной Соглашения об ассоциации с Евросоюзом, Брюссель считает неприемлемыми”. По выражению Клэнси, “глубокая и всеобъемлющая зона свободной торговли с ЕС не помешает Украине развивать конструктивные отношения с Таможенным союзом России, Казахстана и Беларуси”.

**Степан ПАВЛОВ.**

СТОП-КАДР!

# Работа ў пекле



Гэты рабочы Інданезіі працуе ў кратары вулкана Іджэн, дзе прымітыўным спосабам дабываюць серу. У аблоках таксічных газаў па 12 гадзін у дзень увіхаюцца 300 рабочых. Яны не маюць магчымасці купіць сабе нават гумовыя рукавіцы і маскі для дыхання. За апошнія сорак гадоў тут памерла 70 чалавек.

СЦЭНА

# Некаторыя беларускія артысты нашмат лепей за маскоўскіх

*Выканаўца галоўнай ролі ў спектаклі “Дзяды” **Раман Падаляка**, які нядаўна атрымаў узнагароду за лепшую мужчынскую ролю на фестывалі ў Друскінінкаі, — сапраўдная беларуская зорка. Так лічыць кіраўнік прыватнага “Тэатра Ч” **Андрэй Чорны**.*




— Фестываль Vasara доўжыўся амаль месяц, — *распавядае Андрэй.* — У конкурсную праграму было ўключана 13 спектакляў, за прыз змагаўся нават маскоўскі «Современник». На наш спектакль прыязджаў пасол Беларусі ў Літве **Уладзімір Дражын,** яму спадабалася пастаноўка. Публіка прымала выдатна, ігралі мы выдатна. “Дзяды” перамаглі ў адной з галоўных намінацый.

Наш антрэпрызны праект быў высока ацэнены годным журы, на чале якога быў мастацкі кіраўнік Вахтангаўскага тэатра **Рымас Тумінас** (сёння ён лічыцца адным з лепшых маскоўскіх рэжысёраў). Я лічу, што гэта падзея ў культурным жыцці Беларусі. У нашай краіне ёсць героі і акцёры не горш, а па многіх параметрах значна лепш за маскоўскіх. Я займаюся расійскімі зоркамі і таму магу ацэньваць аб’ектыўна...

*Спектакль ідзе на беларускай мове без перакладу. Ці ўсё разумее замежная публіка?*

— У “Дзядах” узнімаюцца агульначалавечыя пытанні, — *адказваюць Андрэй Чорны і Раман Падаляка*. — Гісторыя нешчаслівага кахання будзе зразумелай на любой мове. Што тычыцца дэмакратыі, свабоды і свабоды слова — думаю, гэтыя праблемы існуюць у розных краінах і актуальнасць таксама не згубяць.

Мы вазілі спектакль у Херсон і там, які ні дзіўна, было складана іграць, хоць і асаблівага моўнага бар’ера няма. Спачатку гледачы былі насцярожаныя. Але спектакль так пабудаваны, што ён трымае, нават калі не да канца зразумелыя нейкія моўныя аспекты. А вось у Літве была цішыня. Публіка сядзела, нібы загіпнатызаваная... Адразу нават магло падацца, быццам гэта правал. Але проста так уважліва слухалі...

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

*Раман ПАДАЛЯКА:*

## “Купалаўскі тэатр перажывае не самыя лепшыя моманты...”

*Раман Падаляка працуе ў Тэатры імя Янкі Купалы. “Але душой адыходжу ад свайго асноўнага месца працы ў “Тэатры Ч”, — прызнаецца ён.*

— Звычайна антрэпрызы робяцца такім чынам, каб зарабляць грошы ўнутры краіны, яны не разлічаны на нейкія міжнародныя фестывалі, — *гаворыць выканаўца галоўнай ролі ў праекце “Дзяды”.* — А тут было прыемна, што нас заўважылі і адзначылі. Тым больш што на фестывалі было многа каманд і добрых акцёраў з Масквы.

Мы паказалі, што антрэпрызны тэатр можа быць не толькі камедыйным, не толькі зарабляць грошы, але і ўзнімаць важныя пытанні, якія, можа быць, і цяжкія для нашай краіны, але іх трэба ставіць.

Так склалася, што “Дзяды” не перамаглі ў намінацыі “Лепшы спектакль”, але, думаю, гэта яшчэ наперадзе. Тым больш што ўзнагароду за лепшы спектакль таксама аддалі Беларусі — яе атрымаў **Алег Жугжда** са сваёй “***Пікавай дамай”***. І мы можам ганарыцца тым, што наша краіна ўзяла ўсе топавыя намінацыі на літоўскім фестывалі.

Я ўсё больш, скажу так, адыходжу душой ад свайго асноўнага месца працы — Купалаўскага тэатра — у “Тэатр Ч”. Таму што тут ёсць калектыў, ёсць людзі, якія разумеюць, чуюць і паважаюць адзін аднаго. І ў цэлым тут пануе атмасфера любові і творчасці. Праект “Дзяды” можна назваць маім другім тэатральным домам. Гэта тое месца, куды хочацца ісці і хочацца працаваць. І пытанне не ў грашах, а ў зацікаўленасці. Думаю, гэта не апошняя наша перамога!

*Якія прэтэнзіі мае Раман Падаляка да Тэатра імя Янкі Купалы?*

— Купалаўскі тэатр сёння перажывае не самыя лепшыя моманты, — *выказвае сваё меркаванне артыст.* — Я заўсёды марыў пра калектыў, дзе было б не так шмат людзей і былі аднадумцы, якія без пастановачнага цяжару і ўсяго таго, што звязана з грашыма, займаліся б творчасцю і атрымлівалі ад гэтага задавальненне. Мне здаецца, гэта цалкам удалося ў праекце “Дзяды”. І, можа, я спецыяльна так сказаў, каб трохі падварушыць і Купалаўскі таксама, бо трэба ўсё ж рабіць высновы з таго, што было пастаўлена, а акцёры павінны адчуваць, што яны патрэбны, што іх хочуць задзейнічаць, і бачыць, што іх спрабуюць у розных характарах і персанажах, а не толькі ў тым амплуа, якое да іх прывязалася. Вось таму я так і сказаў пра Купалаўскі...

*У новым тэатральным сезоне Раман Падаляка заняты ў прэм’ерным спектаклі Купалаўскага “Пан Тадэвуш” па Адаму Міцкевічу, над якім вось-вось пачне працаваць рэжысёр **Мікалай Пінігін.***

— Рэпетыцыі яшчэ не пачаліся, яны запланаваныя на сярэдзіну верасня, пакуль ёсць толькі размеркаванне роляў, — каментуе акцёр. — Гэта прыемна, што зноў Міцкевіч, бо я, скажам так, крыху ў матэрыяле. Але паглядзім, што з гэтага атрымаецца...


Кадр са спектакля.

НЕ ПРАПУСЦІЦЕ!

## У Мінск прыедзе Чулпан Хаматава

*А таксама Сяргей Бязрукаў, Алена Якаўлева і Сяргей Макавецкі.*

І гэта яшчэ не ўсё зоркі, якіх плануе прывезці ў Беларусь у гэтым сезоне кіраўнік прыватнага тэатра “Тэатр Ч” Андрэй Чорны.

— У кастрычніку пакажам спектакль “Дзяды” ў Мінску, у лістападзе едзем у Гомель і Гродна, — *распавядае пра тэатральныя планы Чорны*. — Вядома, будзем удзельнічаць у іншых фэстах. Ёсць цікавая прапанова з Ірана, дзе ладзіцца міжнародны тэатральны фестываль. Думаю, для нас гэта будзе цікавы досвед.

Што тычыцца іншых праектаў, то думаем над пастаноўкай па рамане вядомага англійскага пісьменніка Тэры Пратчэта. Два гады таму мы нават заключылі з ім дамову, стварылі сайт, але пакуль шукаем рэжысёра.

Каб разнастаіць рэпертуар театра, плануем выпусціць камедыю і дзіцячы спектакль.

Акрамя таго, “Тэатр Ч” у кастрычніку прывозіць у Мінск **Сяргея Бязрукава** са спектаклем “Хуліган”. Народнаму артысту Расіі спаўняецца 40 гадоў, і гэта яго юбілейны тур. Далей будуць гастролі такіх акцёраў, як **Макавецкі, Якаўлева, Хаматава,** — гэта з таго, што ўжо дакладна намечана...

**Марына КОКТЫШ.**

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## Дзе часцей адпачываюць беларусы?

***Я ў гэтым годзе разам з сям’ёй адпачывала ў адным з беларускіх санаторыяў. Але па кошце пуцёўкі і паслугі аказаліся не танней, чым за мяжой. Таму вырашылі, што ў наступным годзе абавязкова паедзем на мора. Хацелася б ведаць, куды часцей за ўсё ў гэтым годзе ездзілі беларускія турысты? Якая краіна карысталася асаблівай папулярнасцю?***

**Ларыса ФЯДОТКІНА, Мінскі раён.**



Як аказалася, многія беларусы любяць адпачываць у Балгарыі.

— *У гэтым годзе Балгарыя стала краінай №1 на рынку турыстычных паслуг для беларусаў*, — гаворыць кіраўнік гандлёва-эканамічнай службы Пасольства Рэспублікі Балгарыя ў Рэспубліцы Беларусь **Кірыл Вачаў.** — *Па колькасці турыстаў мы апярэдзілі нават Грэцыю і Кіпр.*

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

БУДЬТЕ ЗДОРОВЫ!

## Жить долго с ВИЧ

*Министерство здравоохранения сегодня является самым закрытым ведомством страны. Об этом за «круглом столом» «Почему я живу с ВИЧ долго» сказал основатель портала Tut.by **Юрий Зиссер**.*

В Минске появился первый билборд с изображением ВИЧ-позитивного гражданина нашей страны. В ближайшее время такие плакаты появятся в Мозыре, Солигорске, Жлобине и других городах.

Как отметила заведующая отделом профилактики ВИЧ/СПИДа Республиканского центра гигиены, эпидемиологии и общественного здоровья **Елена Фисенко**, в Беларуси довольно высокая осведомленность о проблеме ВИЧ, но, к сожалению, эти знания поверхностны и неточны. Негосударственные организации помогают привлечь к лечению людей с ВИЧ-позитивным статусом, которые по разным причинам не желают обращаться за помощью к врачам.

— *Государственная система здравоохранения построена на добровольном желании лечиться, а как раз этого желания у ВИЧ-позитивных людей зачастую нет,* — отмечает Фисенко. — *Без силы убеждения, без помощи негосударственных организаций решать эту проблему было бы очень трудно.*

Член правления Белорусского сообщества людей, живущих с ВИЧ, **Евгений Спевак —** один из тех, чье лицо будет на билбордах. Сам Евгений уже 17 лет живет с ВИЧ. У него есть жена и дочь. Свое согласие на участие в акции «Почему я живу с ВИЧ долго» он объясняет просто: *«Хочу разрушить стереотипы».*

— *Не все люди с ВИЧ верят в эффективность лечения, кто-то боится, что его статус будет раскрыт, поэтому и не обращается за помощью к врачам,* — комментирует он. — *Я считаю, что и с ВИЧ можно жить полноценной жизнью. Если все делать правильно, вовремя обращаться за помощью, смертность от ВИЧ можно остановить.*

Заместитель главного врача Городской клинической инфекционной больницы Минска **Дмитрий Падуто** говорит, что лечение ВИЧ-инфицированного ничем принципиальным не отличается от лечения любого хронического заболевания.

— *Наша главная задача — сформировать понимание, что ВИЧ-инфекция не чума XX и XXI века,* — сказала «Народной Воле» координатор программ Странового бюро ВОЗ в Беларуси **Вера Ильенкова.** — *Это хроническое заболевание, которое контролируется лечением, так же как сахарный диабет, артериальная гипертензия и другие заболевания. Доказано, что лечение не только приносит пользу заболевшему, зараженный также не передает вирус другим людям. Таким образом, если человек лечится — он не опасен для общества.*

Основатель популярного портала Tut.by **Юрий Зиссер** говорит, что людей всегда интересует не сухая статистика и абстрактная информация, а конкретные жизненные ситуации и истории.

— *Нужно больше говорить об этой проблеме, нельзя скрывать информацию,* — высказал свое мнение Юрий Анатольевич. — *И хочется, чтобы Минздрав давал больше информации по ВИЧ/СПИДу и другим проблемам. Думаете, Министерство обороны сегодня самое закрытое? Нет, к сожалению, это Минздрав...*

**Роман ВАСЮКОВИЧ.**

ПОДИУМ

# “Миссис Вселенная” преподает математику



***Обладательница короны конкурса «Миссис Вселенная» Светлана Кузнецова рассказала «Народной Воле», на какой диете ей удалось сбросить 17 лишних килограммов.***

### «Белла Русь»

*Именно так называют Беларусь на острове Аруба, расположенном на юге Карибского моря.*

— На самом деле за океаном очень мало знают про Беларусь, — *говорит Светлана.* — И организаторы конкурса даже когда представляли нашу страну, писали «Белла Русь». Мне пришлось приложить немало усилий, чтобы объяснить, где находится наша страна и как правильно пишется ее название. А сейчас благодаря моей победе весь мир знает Беларусь, и я горжусь этим!




### Не все короны продаются

*В последнее время весьма популярно мнение о том, что на любом конкурсе красоты победу можно купить — были бы деньги. Есть 200 тысяч долларов — забирай корону первой красавицы вселенной.*

— Я знаю, что многие смотрели провокационный фильм Бориса Соболева «Коронованные особи», где рассказывалось про конкурсы красоты и про то, что корона стоит больших денег — примерно 200 тысяч, — *говорит Светлана*. — Мне кажется, такие средства лучше потратить на покупку квартиры, чем на конкурс. На самом деле на «Миссис Вселенной—2013» все было честно и прозрачно. Я не знаю, как доказать и что сказать, чтобы поверили...

Выбор победительницы происходит не за один день. Почти десять дней за нами наблюдают: как мы себя ведем, как общаемся, как ладим с конкурентками. Внешние данные тоже играют какую-то роль, но, поймите, миссис — это замужние и рожавшие женщины, у них формы уже далеко не модельные. Например, у «Миссис Новая Зеландия» — 9 детей, у «Миссис Сингапур» — 5. И здесь все-таки больше оценивается активная жизненная позиция. Я считаю, что прохожу по всем критериям. И, возможно, мое образование (а я преподаватель математики) — тоже сыграло свою роль. Все удивлялись: да ну, красавица и учительница математики — несовместимые вещи!

Я преподаю в школе, веду уроки в 6—9-х классах. И мои ученики тоже часто спрашивают: зачем вам эта школа и математика? А мне нравится! Я с удовольствием каждый день иду на работу, с удовольствием веду уроки, ставлю оценки — мне это нравится. И ученики гордятся мной. Они, кстати, принимали участие в интернет-голосовании, которое шло целый месяц. Каждый мог отдать свой голос за понравившуюся конкурсантку. Так вот даже в интернете Беларусь была в тройке лучших: на первом месте — Малайзия, на втором — США, на третьем — Беларусь. И каждый день все мои ученики (а их у меня 1200) заходили на сайт и сообщали мне об этом: мол, мы за вас болеем. А сейчас шлют поздравления.

### Первая пальма в жизни

*В 1998 году Светлана Кузнецова (тогда еще Крук) победила на первом национальном конкурсе «Мисс Беларусь», а через 15 лет — получила корону «Миссис Вселенная LTD». Какая победа была более значимой и запоминающейся?*

— Сейчас есть невероятное чувство гордости за страну, — *сравнивает свои ощущения Светлана.* — И было много таких бытовых переживаний: боже, я тут уже десятый день, как там мои дети? Хотя дети были здесь, в Беларуси, с моими родителями в Гродно.

«Миссис Вселенная» — мой шестой конкурс, а «Мисс Беларусь—1998» был первым. Тогда слава свалилась совсем внезапно. Меня стали узнавать на улицах. Но я не зазналась. И никогда не страдала звездной болезнью. Всегда считала, что, сколько бы ни было соблазнов и предложений, нужно получить высшее образование.

Как главная красавица страны я должна была участвовать во всех международных конкурсах. Когда я поехала на «Мисс Мира», нас всех вывезли на Мальдивские острова. Мне было 18—19 лет, и это был мой первый выезд за границу. Я тогда впервые увидела настоящий океан, пальму и белый песок. И для счастья мне больше ничего не надо было. Я радовалась тому, что просто вижу всю эту красоту, какая там еще корона? Мне было вполне достаточно того, что я — «Мисс Беларусь».

А сейчас... Я много путешествую по миру, видела, наверное, все пальмы и океаны. И меня этим уже не удивишь. И поэтому теперь конкурс для меня прежде всего был работой. Я поставила себе цель, что должна сделать эту работу хорошо. И не могла вернуться ни с чем. И добилась того, чего хотела.

Какой будет моя новая цель? Пока ее нет. Все высшие короны взяты. Ехать на конкурс ниже статусом уже титул не позволяет. Наверное, с конкурсами красоты пора завязывать. Готова давать советы подрастающему поколению, новым мисс и миссис.

В этом году буду сотрудничать с фондом ООН по предотвращению домашнего насилия, а других долгосрочных целей пока не ставлю.

Что касается планов на личную жизнь, то муж хочет третьего ребенка. И если мужчина хочет, значит, наверное, надо будет. Хотя так тяжело потом приходить в форму...

### Плюс 30 килограммов

*За время беременности Светлана Кузнецова набрала 30 килограммов. И если после первых родов лишний вес ушел быстро, то после вторых все было не так просто...*

— Пришлось немало потрудиться, — *говорит она*. — И я специально худела к конкурсу. С Нового года удалось избавиться от 17 килограммов. Я села на диету Протасова, которую нашла в интернете. Мне она показалась самой простой. Я перепробовала много самых разных способов похудения: не ела после 18 часов, практиковала белковую диету и просто не ела. Но не выдерживала, всегда срывалась. А тут получилось. Может быть, был хороший стимул... Кстати, на конкурсе нас кормили даже гамбургерами. Но сейчас я ем все, и вес остается стабильным.

### Элегантность и стиль от Юлии Латушкиной

*На Карибы Светлана привезла чемоданы с нарядами от белорусского дизайнера Юлии Латушкиной*.

— Я очень ей благодарна, — *отмечает «Миссис Вселенная».* — Потому что выгодно отличалась от других конкурсанток. В том числе и количеством сувениров — у других стран все было гораздо скромнее. Мы привезли с собой белорусские конфеты, украшения, кукол и украшения из соломы. И все хотели получить именно белорусский подарок.

### Мужчины на шпильках

*«Миссис Малайзия», которая вместе со Светланой Кузнецовой получила корону «Миссис Вселенная», планирует организовать в своей стране забег мужчин на каблуках.*

— Таким образом она хочет привлечь внимание к проблеме насилия над женщиной, — *рассказывает Светлана о приятельнице по подиуму.* — Как-то на одном из сайтов было размещено мое интервью, в котором я сказала, казалось бы, совершенно безобидную фразу о том, что мальчиков нужно растить в уважении к женщине. И она вызвала такой взрыв негативных эмоций среди мужчин, что мне даже стало немного страшно...

Сама я, слава Богу, с домашним насилием никогда не сталкивалась. Мои ближайшие родственники тоже. Но тем не менее я прекрасно знаю, что в некоторых семьях насилие есть. И с этим нужно



НА ЗАМЕТКУ

### Диета от Миссис Вселенная

*Диета Протасова, которой придерживалась Светлана Кузнецова, длится 5 недель.*

Секрет диеты заключается в ограничении углеводов с высоким гликемическим индексом.

*Первая неделя*

Ежедневно — только сырые овощи, творог (сыр) и йогурты 5%-ной жирности.

Количество продуктов и время дня — любое.

Можно съедать одно вареное яйцо в день и три зеленых яблока.

*Вторая неделя*

Рацион остается неизменным.

*Третья неделя*

К овощам и сырам нужно добавить 300 г жареного мяса (птицы, рыбы) в день. Немного сократить объем потребляемых сыров и йогуртов.

*Четвертая и пятая недели*

Овощи, творог, мясо, яйцо и яблоки.

В день нужно обязательно выпивать 2 литра воды. Чай, кофе можно пить в любом количестве (без сахара), но лучше отдать предпочтение зеленому чаю.




ИЗ ЛИЧНОГО ДЕЛА

**Светлана Кузнецова**, модель, преподаватель математики, Миссис Вселенная LTD.

Родилась в Беларуси, но сейчас с мужем и детьми живет в Москве. Муж работает офис-менеджером в одной из московских компаний. Старшему сыну Кузнецовых — 9 лет, младшему — 2 года и 8 месяцев.

Светлана закончила математический факультет Гродненского государственного университета, а также российскую Высшую школу экономики в России.

В 2010 году вошла в десятку лучших педагогов Москвы и получила правительственную медаль за заслуги перед российским образованием.

Для Светланы Кузнецовой «Миссис Вселенная—2013» — шестой конкурс. Она была победительницей первого национального конкурса «Мисс Беларусь—1998», «Вице-Мисс СНГ—1999», финалисткой «Мисс Европа—1999», участницей «Мисс мира—2000», «Миссис Миллениум—2012», «Миссис Вселенная LTD-Беларусь—2013».

КСТАТИ

## Красота против насилия

Принимать участие в конкурсе «Миссис Вселенная» могут замужние дамы с активной жизненной позицией от 25 до 45 лет.

В 2011 году на конкурс «Миссис Вселенная» от Беларуси ездила модель и телеведущая **Ирина Хануник-Ромбальская**, ей достался титул «Супер Модель».

В 2012 году Беларусь представляла адвокат **Наталья Трофимова**. Она вошла в десятку сильнейших и получила титул «Миссис Дружба». Кроме того, Наталья стала официальным представителем конкурса «Миссис Вселенная» в Беларуси — право отбирать девушек на этот конкурс есть только у нее.

В этом году победительницами конкурса стали две девушки: первую корону получила представительница Малайзии, вторую — белоруска.

Уже много лет девиз Международного конкурса «Миссис Вселенная» — «Нет насилию!». В этом году на Карибских островах красавицы со всего мира не только демонстрировали свои наряды и таланты, но и обсуждали, как можно эффективно противодействовать домашнему насилию.

**Марина КОКТЫШ**

Народная Воля http://www.nv-online.info
27 ЖНІЎНЯ 2013 г.

# Дзевяноста першы

Сяргей НАВУМЧЫК

# Путч. Супраціў

Вось гэта тое, што называецца "баявы настрой". Разам з Зянонам Пазьняком — Лявон Баршчэўскі і Уладзімір Заблоцкі.

*(Працяг. Пачатак у №№61,63,65.)*

## «Захоўваць спакой» — адчуваць сябе быдлам

Камуністычнае кіраўніцтва Беларусі сустрэла путч з энтузіязмам: Бюро ЦК КПБ на чале з першым сакратаром Малафеевым падтрымала членаў ГКЧП.

Зрэшты, сакратары ЦК Малафееў, Камай, Ціхіня мелі досвед стасункаў у самых верхніх эшалонах улады і ведалі, якім зменлівым бывае тое, што яшчэ сёння выглядае несакрушальным. У дачыненні да камуністычнай партыі яны такога, вядома, уявіць сабе не маглі, а вось датычна асобных палітычных фігур тое выглядала рэальным. Сёння Янаеў замяніў Гарбачова, а заўтра нехта заменіць Янаева. За тры дні путчу не ўсе сакратары ЦК асабіста выказаліся публічна (ва ўсякім разе ў друку), хоць палітычная іх пазіцыя падтрымкі путчу была выразна выяўлена ў заяве Бюро ЦК КПБ. Магчыма, проста не паспелі.

Затое ў правінцыі — ці, як любілі казаць камуністычныя кіраўнікі, «на месцах» — партыйныя органы раскрыліся напоўніцу.

«Першыя ж дакументы Дзяржаўнага камітэта па надзвычайным становішчы ў СССР, абнародаваныя 19 жніўня 1991 года, паказваюць, што абвешчаныя надзвычайныя меры па выхадзе краіны з глыбокага ўсебаковага крызісу адпавядаюць інтарэсам людзей працы і не супярэчаць прынцыпам і бліжэйшым мэтам Камуністычнай партыі. Падтрымліваем дзеянні Дзяржаўнага камітэта па надзвычайным становішчы, накіраваныя на стабілізацыю абстаноўкі ў краіне, і заклікаем камуністаў, працоўных горада захоўваць вытрымку, спакой, узважанасць у закліках і дзеяннях, усямерна садзейнічаць аднаўленню дысцыпліны і парадку, стабільнасці ў рабоце працоўных калектываў», — гаварылася ў заяве сакратароў пярвічных партыйных арганізацый камуністаў Магілёва, прынятай праз некалькі гадзін пасля абвяшчэння надзвычайнага становішча.

І такіх заяў у кожнай вобласці былі дзясяткі.

Праз некалькі дзён створаная Вярхоўным Саветам адмысловая камісія на чале з Ігарам Пырхам выявіць, што падтрымка хунты камуністычнымі кіраўнікамі ў рэгіёнах была татальнай.

У Мазыры старшыня гарвыканкама Іван Замулка 20 жніўня выступіў па кабельным тэлебачанні і абвясціў пра стварэнне «мясцовай камісіі па надзвычайным становішчы» (маскоўскага ГКЧП падавалася недастаткова).

У Рэчыцы старшыня гарвыканкама Іван Бамбіза (наш калега па парламенце) сказаў на нарадзе, што падзяляе кожны пункт заявы путчыстаў. На гэтай нарадзе іншы дэпутат Вярхоўнага Савета, Анатоль Турак, спрабаваў асудзіць хунту — але наменклатура была маналітнай у сваім жаданні скончыць з дэмакратычнымі пераменамі.

У Лагойску бюро райкама КПБ сумесна з кіраўніцтвам райсавета выказаліся ў падтрымку хунты.

У Бабруйску першы сакратар райкама КПБ сумесна з камандуючым 5-й арміяй сабраў сход у Доме афіцэраў і агітаваў прысутных падтрымаць КГЧП. У самім гаркаме хуценька арганізавалі камітэт у падтрымку хунты і, як даведаўся наш калега дэпутат Эдуард Багаўцоў, пачалі складаць «чорныя спісы» прыхільнікаў дэмакратыі.

У Оршу 20 жніўня быў уведзены АМАП, байцы якога адразу ж затрымалі ўдзельнікаў інфармацыйнага пікета БНФ З.Дзядзенку і Г.Сініцына, вызваліць якіх удалося толькі пасля ўмяшання дэпутата Вярхоўнага Савета Яўгена Глушкевіча.

(Праз некалькі дзён па шмат якіх фактах падтрымкі хунты пракуратура распачне справы, але ніводная не скончыцца судом альбо нават нейкімі вялікімі непрыемнасцямі для фігурантаў. Напрыклад, прыгаданы Іван Бамбіза праз пару гадоў зойме пасаду віцэ-спікера Вярхоўнага Савета, а пры Лукашэнку будзе прызначаны членам урада. Увогуле, найбольш зацятых прыхільнікаў хунты Лукашэнка ўзнясе на высокія пасады (напрыклад, Малафееў узначаліць так званы «сенат»).

«Захоўваць вытрымку і спакой» — гэта значыла не збірацца на мітынгі, не пратэставаць, адчуваць сябе быдлам.

Разам з партыйнымі сакратарамі, кіраўнікамі рэгіёнаў падтрымалі путч і шмат якія кіраўнікі прадпрыемстваў.

Генеральны дырэктар Мінскага гадзіннікавага завода Уладзімір Абрамчык 19 жніўня выдаў загад №489, у якім абавязваў «строга і рашуча спыняць якія заўгодна парушэнні працоўнай дысцыпліны і ўнутрызаводскага распарадку... Увесці на перыяд надзвычайнага становішча дзяжурствы на прадпрыемстве адказных работнікаў».

Газета «Свабода» потым паведамляла, што адразу пасля абвяшчэння заявы ГКЧП на гадзіннікавы завод прыбег другі сакратар Мінскага гаркама партыі Віктар Чыкін, і на інфармацыйных стэндах з’явіліся пастановы путчыстаў. На другі дзень сябры страйкама вывесілі ўлёткі з асуджэннем хунты, аднак заводская адміністрацыя выклікала міліцыю, і міліцыянты «паўдня лазілі па цэхах, зрываючы ўлёткі».

Журналісты газеты «Свабода» высветлілі, што падпісаны дырэктарам загад рыхтаваў начальнік так званага першага аддзела заводу Бабіцкі, які раней кіраваў управай КДБ Савецкага раёна Мінска.

Увогуле пра тое, чым займаліся ў тыя дні гэбісты, мы ўжо ніколі не даведаемся. Навідавоку іх дзейнасць, як заўсёды, не была, пазней старшыня КДБ Эдуард Шыркоўскі даводзіў, што «камітэт» не падтрымліваў путчыстаў, а, як яму і належыць, быў «на варце законнасці». Але некаторыя гэбісты ўсё ж сваю пазіцыю выказаць паспелі. Так, у віцебскай газеце «Віцьбічы» (якая заўсёды вызначалася антыбеларускай, антынацыянальнай і праімперскай накіраванасцю, узначальвала яе добра вядомая мне па працы ў Віцебску Ніна Тулінава) адзін з кіраўнікоў абласнога ўпраўлення КДБ Віктар Бурак пра канстытуцыйнасць сказаў крыху больш, чым потым ягоны шэф Шыркоўскі: «Як орган дзяржаўнага кіравання мы стаім на варце канстытуцыйнага ладу. Камітэт па надзвычайным становішчы ў СССР створаны ў адпаведнасці з Канстытуцыяй СССР, з гэтага вынікае, што мы будзем кіравацца ягонымі рашэннямі».

Ні Канстытуцыяй БССР, ні Дэкларацыяй аб дзяржаўным суверэнітэце, а загадамі праімперскай хунты збіраўся кіравацца кадэбісцкі начальнік.

## Шаладонаў: «Застаўся дагавор 1922 года»

У той самы дзень, 20 жніўня, адбылося пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі. Дэпутаты Апазіцыі спрабавалі на ім пераканаць Прэзідыум асудзіць ГКЧП, але безвынікова. На тым пасяджэнні я выказаў пратэст генеральнаму пракурору Георгію Тарнаўскаму з прычыны забароны выхаду газеты «Знамя юности» (у нумары меліся з’явіцца меркаванні тых, хто не падтрымаў путч).

Стэнаграма таго пасяджэння Прэзідыума захоўваецца недзе ў архівах, а ў мяне захаваўся толькі фрагмент запісу, калі дэпутат Апазіцыі БНФ Алег Трусаў, заклікаючы членаў Прэзідыума падтрымаць прэзідэнта РСФСР Ельцына ў ягоным супраціве ГКЧП, апеляваў да нядаўна падпісаных паміж БССР і РСФСР пагадненняў (іх падпісалі Ельцын і Дземянцей). Паказальная пазіцыя двух юрыстаў — генеральнага пракурора Георгія Тарнаўскага і намесніка старшыні Вярхоўнага Савета Васіля Шаладонава:

«***Трусаў:*** Беларусь падпісала з Расіяй адпаведныя юрыдычныя пагадненні.

***Тарнаўскі:*** Я ў падпісанні не ўдзельнічаў.

***Шаладонаў:*** Не было абмену ратыфікацыйнымі граматамі!

***Заблоцкі:*** Майце сорам! Павінна быць сумленне!

***Гаркун:*** Спакойна!

***Дземянцей:*** Напэўна, не без ягонай, Гарбачова, згоды гэта адбывалася. Янаеў (сказаў), у самым цяжкім становішчы ён цяпер.

***Булахаў:*** Я — за абноўлены Саюз. Але парадак і дэмакратыя (павінны ўсталёўвацца) толькі метадамі, якія абапіраюцца на законы».

Дзмітрый Булахаў быў не адзіным членам Прэзідыума, хто ацаніў ГКЧП як антыканстытуцыйнае ўтварэнне: акрамя яго гэта зрабілі Станіслаў Шушкевіч, старшыні парламенцкіх камісій Генадзь Карпенка, Валерый Курдзюкоў, Аляксандр Сасноў, Міхаіл Слямнёў і, канешне, франтавец Пётра Садоўскі.

Слямнёў паспрабаваў выказаць стаўленне да перавароту па радыё, але кіраўніцтва Дзяржтэлерадыё даць яму эфір адмовілася.

Затое раніцай 20 жніўня на Беларускім радыё прагучала інтэрв’ю намесніка старшыні Вярхоўнага Савета Васіля Шаладонава. Ён сказаў, што верыць «тым людзям, якія заяўляюць, што прэзідэнт хворы, і хацеў бы нагадаць, што сёння дзейнічае Канстытуцыя Саюза ССР. Мы не падпісалі новага саюзнага дагавора, а таму няма новай прававой базы. Застаўся дагавор 1922 года. Таму мы павінны выконваць усе законы, якія дзейнічаюць і прыняты ў адпаведнасці з Канстытуцыяй Саюза ССР».

Пра Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі Шаладонаў нават і не ўзгадаў. Затое выказаўся пра наша патрабаванне неадкладна сабраць сесію.

«Сёння я прачытаў у «Народнай газеце» заяву народных дэпутатаў склікаць нечарговую сесію, — працягваў Шаладонаў. — Я не бачу ў гэтым неабходнасці. Калі Прэзідыум палічыць, што нейкае рашэнне патрабуе ацэнкі шырокага кола дэпутатаў, ён у любым выпадку збярэцца, і не будзе Прэзідыум ніколі прымаць рашэнні, якія супярэчылі б развіццю дэмакратыі і стабілізацыі становішча ў цэлым па рэспубліцы».

Што да інтарэсаў дэмакратыі, дык Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР ніколі не быў заўважаны ў сімпатыі да дэмакратычных сіл і ўвогуле дэмакратычных працэсаў. Якраз заклікі да «стабільнасці» былі традыцыйнай прапагандысцкай шырмай дзеля таго, каб спыніць усялякія дэмакратычныя перамены.

Шаладонаў таксама заклікаў «больш надаць увагі ўборцы ўраджаю» і выказаў спадзяванне, што «будзем імкнуцца да навядзення правапарадку ў цэлым па краіне, гэта відаць, надасць сілы і ўпэўненасці ў рабоце праваахоўных органаў».

Прэзідыум Вярхоўнага Савета прыняў заяву, у якой шмат гаварылася пра «канстытуцыйнасць» і «спакой», але — ні слова з асуджэннем путчу.

Потым члены Прэзідыума ВС БССР апраўдваліся, што ў Беларусі надзвычайнага становішча не ўводзілася. Але насамрэч іх нежаданне супрацьстаяць хунце, адсутнасць асуджэння ГКЧП і яго антыканстытуцыйнай дзейнасці азначала згоду з дзеяннямі змоўшчыкаў, фактычную легітымізацыю іх намераў на тэрыторыі Беларусі.

Вось чаму мы, дэпутаты Апазіцыі БНФ, пасля правалу путчу прапанавалі Вярхоўнаму Савету «асудзіць бяздзейнасць і безадказнасць у справе абароны Канстытуцыі і суверэнітэту Беларускай ССР членаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Дземянцея М.І., Шаладонава В.І., Гаркуна У.Г., Гілевіча Н.С., Грыба М.І., Жуковіча Я.Б., Жукоўскага М.Д., Капытава М.Я., Каратчэні І.М., Козіка Л.П., Кулічкова А.М., Котава С.М., Леўчыка У.К., Міцько П.Я., Савіцкага Б.П., Смоляра І.М., Сівіцкага Д.А., Унучкі Р.І. у час спробы дзяржаўнага перавароту 19—21 жніўня г.г. ... Лічыць немагчымым далейшае выкананне імі абавязкаў членаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР».

## Садоўскі: «Мы разам кажам путчыстам: “Не!»

20 жніўня дэпутаты Апазіцыі БНФ прынялі зварот да народных дэпутатаў, кіраўнікоў прадпрыемстваў і ведамстваў Беларускай ССР», у якім пазначылі, што «дзеянні путчыстаў у СССР з’яўляюцца крымінальным злачынствам, а створаны імі самазваны «Камітэт па надзвычайным становішчы» — антызаконным. Таму ніякія патрабаванні і распараджэнні змоўшчыкаў з «камітэта» на тэрыторыі Беларусі не павінны брацца пад увагу і тым больш выконвацца. Выкананне гэтых распараджэнняў можа расцэньвацца як спрыянне дзяржаўным злачынцам. Заклікаем дэпутатаў усіх узроўняў, кіраўнікоў прадпрыемстваў і ведамстваў Беларускай ССР разам з усімі людзьмі добрай волі адстаяць суверэнітэт Рэспублікі, правы чалавека, законы і дэмакратычныя пераўтварэнні ў Беларусі». Падпісалі — З.Пазьняк, В. Голубеў, У.Заблоцкі, С.Навумчык, У. Станкевіч, А.Трусаў, Б.Гюнтэр, Л.Дзейка, Л.Баршчэўскі, Я.Цумараў, В.Зяленін, С. Папкоў.

Нас вельмі рашуча падтрымалі дэмакратычныя дэпутаты Мінскага гарсавета, якія выступілі са зваротам да жыхароў сталіцы «захоўваць вернасць законна абраным органам улады і дамагацца ўсімі канстытуцыйнымі метадамі спынення дзейнасці Дзяржаўнага камітэта па надзвычайным становішчы». Зварот падпісалі дэпутаты Мінгарсавета Міхась Бусьнюк, Галіна Вашчанка, Андрэй Завадскі, Рыгор Куневіч, Міхась Расолька, Міраслаў Кобаса, Міхась Пліска, Валерый Несцер, Алесь Бяляцкі — усяго 29 дэпутатаў; свой подпіс паставіў і народны дэпутат СССР Аляксандр Дабравольскі.

У Пінску гарсавет быў падзелены на дзве дэпутацкія групы. Тая, куды ўваходзіла пераважная большасць кіраўнікоў прадпрыемстваў, мела назву «За грамадзянскую згоду» (камуністы любілі слова «згода»), і ў дадзеным выпадку пазіцыя гэтай групы цалкам адпавядала назве “Згода з путчыстамі”. Але была і група, якая складалася з актывістаў БНФ і прыхільнікаў дэмакратычных рэформаў. Менавіта яны 19 жніўня сабралі патрэбную колькасць подпісаў і прымусілі старшыню гарсавета склікаць сесію, якая сабралася 20 жніўня. Адбылося гэта шмат у чым дзякуючы дырэктару Пінскай дзіцячай школы выяўленчага мастацтва, «франтаўцу» Яўгену Шатохіну. На сесіі першы сакратар райкама партыі заклікаў «не спяшацца з высновамі», але для дэмакратаў высновы былі зразумелыя. Яны пераконвалі асудзіць путчыстаў, і ў выніку ім удалося сабраць належную для прыняцця адпаведнай заявы колькасць прыхільнікаў. «Разам з вамі я падпісаў сабе прысуд», — сказаў тады старшыня гарсавета.

Па факсе з Віцебска я атрымаў зварот, падпісаны дырэктарам завода заточных станкоў Я.Кісялёвым і старшынёй прафкама Я.Белагузавым, дзе ГКЧП называўся «злачыннай хунтай», а дэпутатаў заклікалі «даказаць сваю адданасць народным інтарэсам».

Гэты настрой супраціву выявіўся ўвечары 20 жніўня на плошчы перад Домам урада, дзе адбыўся мітынг і дзе, акрамя іншага, было абвешчана пра стварэнне БЗВ — Беларускага згуртавання вайскоўцаў.

Захаваліся ўнікальныя кінакадры — у тыя дні Алесь Лукашук і Юрый Гарулёў здымалі фільм пра дэпутатаў Вярхоўнага Савета, і аператар быў у памяшканні апазіцыі. Ён і зняў, як дэпутаты БНФ выйшлі на плошчу (на відэа зафіксаваны таксама моманты працы над дакументамі да сесіі Вярхоўнага Савета, якая абвясціла незалежнасць — гэта адзіныя і ўнікальныя здымкі, больш у памяшканні Апазіцыі БНФ у тыя жнівеньскія дні ніхто, здаецца, не здымаў).

У мяне захаваліся фрагменты стэнаграмы мітынгу 20 ліпеня на плошчы Леніна.

***Пётра Садоўскі:*** «У КГБ баяліся, што з’явіліся ўлёткі і людзі прыйдуць на плошчу на сустрэчу са сваімі дэпутатамі і выкажуцца, што яны думаюць супраць гэтых путчыстаў. А мы разам гаворым путчыстам: «Не!» (*галасы на плошчы «Не! Не!»*)... Я хачу сказаць, што дэпутацкая Апазіцыя ў Вярхоўным Савеце выступіла з ініцыятывай аб скліканні нечарговай сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі, дзе мы маглі б даць ацэнку і тым падзеям, якія адбыліся ў імперскім цэнтры ў спробе захопу ўлады, каб мы маглі даць ацэнку тым нашым кіраўнікам Беларусі, якія яшчэ ў нядзелю лісліва даказвалі нам, што трэба ехаць у Маскву падпісваць з Гарбачовым саюзны дагавор, і праз некалькі гадзін яны ўжо адмовіліся і пачалі служыць новым панам (*свіст з натоўпу, воклічы «Далоў! Далоў!»*). Людзі! Зараз галоўнае — арганізаваць еднасць, згуртаванне, змаганне за канстытуцыйныя правы, за захаванне ўсіх законаў, паводле якіх мы жывём, і галоўнае — за пабудову нашай незалежнай Беларускай дзяржавы».

***Алег Трусаў:*** «Я хачу вам у двух словах сказаць, што не толькі зараз мінчане абмяркоўваюць гэтую сітуацыю, якая здарылася ў краіне, але і дэмакратычныя дэпутаты розных узроўняў у Маладзечне, Пінску, Наваполацку, Магілёве, Гомелі і ў шмат якіх іншых гарадах (*воплескі*). Сярод нас прысутнічаюць таксама прадстаўнікі Смалявічаў, Бабруйска ды іншых гарадоў, якія прыехалі спецыяльна на нашу плошчу (*воплескі*). Таксама зараз гэтае пытанне абмяркоўваюць шахцёры Салігорска. Такім чынам, мы бачым, што ўсё дэмакратычнае насельніцтва Беларусі разумее, чым можа скончыцца путч. Гэта паварот да 37-га года, гэта зноў ГУЛаг. Гэта зноў зганьбаванне ўсіх нацыянальных святынь, зноў зганьбаванне нашай занядбанай спадчыны. І таму мне здаецца, што ў наш такі складаны час трэба не забываць, што мы беларусы, што зараз, калі пачынаецца новы навучальны год, трэба аддаваць сваіх дзяцей менавіта ў беларускамоўныя класы, трэба развіваць беларускамоўную культуру. Бо толькі нацыя, якая валодае мовай, гісторыяй і культурай, можа быць незалежнай нацыяй. Жыве Беларусь!» (*Воклічы «Жыве!», воплескі*).

***Вядучы:*** Шаноўныя сябры! Слова для інфармацыі мае падпалкоўнік Статкевіч.

***Мікола Статкевіч:*** «Заява Беларускага згуртавання вайскоўцаў. 20 жніўня ў горадзе Мінску групай афіцэраў створана Беларускае згуртаванне вайскоўцаў. Мы... (*Воплескі, воклічы «Ура!»*). Мы, афіцэры, якія ўвайшлі ў Згуртаванне, звяртаемся да беларускага народа, да Вярхоўнага Савета рэспублікі і заяўляем наступнае. Спроба дзяржаўнага перавароту, пачатая ў ноч на 19 жніўня ў Маскве, паказала, што асобай гарантыяй незваротнасці дэмакратычных змен і суверэнітэту рэспублікі могуць стаць толькі дэпартызаваныя нацыянальныя вайсковыя злучэнні. У сувязі з гэтым мы выступаем супраць антыканстытуцыйнага перавароту і будзем канстытуцыйным крокам змагацца за стварэнне беларускага войска (*Воклічы «Ура!», воплескі*). Цяпер яшчэ адзін дакумент, мы звярнуліся да вайскоўцаў Беларускай вайсковай акругі. (*Далей гаворыць па-расійску*). «Памятайце, вы давалі прысягу на службу Радзіме, на абарону яе свабод, вы не давалі прысягу абараняць наменклатуру КПСС ад гневу народа (*воплескі*). Вы не маеце юрыдычнага права выконваць загады, якія зыходзяць ад неканстытуцыйнага органа. Мы заклікаем войска не прымаць удзел у перавароце. Сёння вы маўчыце, заўтра вам аддадуць загад страляць у свой народ, у вашых бацькоў, маці, братоў, сёстраў. Выбар трэба зрабіць сёння. Заўтра можа быць позна. Заўтра можа пачацца грамадзянская вайна. Беларускае згуртаванне вайскоўцаў».

***Сяргей Навумчык:*** “Я прыгадваю, як некалькі месяцаў таму, у лютым, давялося сядзець на сустрэчы з Гарбачовым у Акадэміі навук, як Міхаіл Сяргеевіч лаяў і абражаў дэмакратаў, а за два метры за ім сядзелі задаволеныя, усміхаючыся, малафеевы, камаі, кастэнкі, дземянцеі. І вось сёння, калі ён аказаўся блакіраваны путчыстамі, ніхто з гэтых людзей не стаў у яго абарону, а «так званыя дэмакраты» — сталі. Тая пазіцыя, якую займаў Гарбачоў, лагічна прывяла да гэтых падзей. І гэта паказвае ўсю бесперспектыўнасць так званага цэнтрызму і так званай памяркоўнасці, якую, на жаль, вызнаюць многія ў нашым Вярхоўным Савеце... Сёння раніцай... была забаронена газета «Знамя юности». Яна не выйшла толькі таму, што асмелілася ў вельмі сціплых выразах сказаць пра ўчорашні дзяржаўны пераварот. І не выйшла таму, што паступіў адпаведны загад, ну, вядома, адтуль, з вядомага нам будынка на Кастрычніцкай плошчы, з будынка Цэнтральнага камітэта кампартыі бальшавікоў (*галасы «Далоў!», свіст*)... Я заклікаю блакіраваць, не выпісваць ні «Правду», ні «Советскую Россию», ні «Советскую Белоруссию», ні «Звязду», калі яны будуць несці тую лухту, якую нясуць зараз. Ніводнай працоўнай капейкі дзеля бальшавіцкай лухты! Жыве Беларусь» (*Воклічы «Жыве!», воплескі.*)

## Анямелая «Звязда» і рашучая «Свабода»

У той дзень, 20 жніўня, сапраўды не выйшла «Знамя юности», і з гэтай прычыны на пасяджэнні Прэзідыума Вярхоўнага Савета я заявіў пратэст генеральнаму пракурору Георгію Тарнаўскаму.

Нашую прынятую раніцай 19 жніўня заяву з заклікам не выконваць распараджэнні ГКЧП на другі дзень, 20 жніўня, не апублікавала ніводная афіцыйная газета. У тым ліку — і парламенцкая «Народная газета». (У тыя дні рэдактара Іосіфа Сярэдзіча не было ў Мінску. Праўда, «Народная газета» змясціла артыкул Паўла Якубовіча, у якім дзеянні ГКЧП былі пастаўлены пад сумнеў.)

Газета «Звязда» 20 жніўня на першай паласе побач з загалоўкам надрукавала: «Краіна ў шоку. І мы анямелі...» Разумей як хочаш — ад радасці анямелі ці ад роспачы?

«Звязда» (орган ЦК КПБ, Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Беларускай ССР) праз тры дні, калі путч праваліўся, надрукуе рэпліку ў мой адрас (на першай паласе!), дзе выкажа незадаволенасць, што «народны дэпутат БССР былы журналіст С.Навумчык» прайшоўся па адрасе «Звязды»: маўляў, іх журналістам не хапіла мужнасці і грамадзянскай смеласці...». У рэпліцы — спасылка на заяву «Выбар», змешчаную у той самай «Звяздзе» 21 жніўня, дзе, сапраўды, частка журналістаў не пагадзілася прыняць ГКЧП як канстытуцыйны орган — і такая заява, безумоўна, вымагала ад журналістаў зрабіць выбар.

Але ж прафесійны абавязак журналіста — даваць чытачу аб’ектыўную інфармацыю, твая асабістая пазіцыя чытача цікавіць у апошнюю чаргу.

«Звязда» і 20, і 21 жніўня на першай паласе друкавала распараджэнні ГКЧП — і ні радка не дала пра заклікі не падтрымліваць хунту. Хаця былі заявы і дэпутатаў Апазіцыі БНФ, і нават некаторых членаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета. (Рэдакцыя магла б «прыкрыцца» Законам аб статусе дэпутата, паводле якога прэса была абавязана даваць дэпутатам слова.)

Нарэшце, на наступны дзень пасля правалу путчу, 22 жніўня, добрую палову першай паласы «Звязды» занялі «Пастанова №3» ГКЧП, а таксама паведамленне каменданта г.Масквы і загад каменданта г.Масквы. («На перыяд дзеяння надзвычайнага становішча забараніць правядзенне забастовак, сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў і дэманстрацый. Відовішчныя і іншыя масавыя мерапрыемствы праводзіць з дазволу камендантаў раёнаў па тэрытарыяльнасці». Ужо нават не сакратары райкамаў вырашалі, а палкоўнікі! Падрабязна быў распісаны падзел тэрыторыі Масквы па раёнах. Толькі навошта пра гэта так пільна ведаць чытачам у Беларусі?)

А ўнізе першай паласы нібыта апраўдаліся: «Матэрыялы гэтага нумара былі падрыхтаваны да таго, як наступіла развязка: замыслы экстрэмістаў праваліліся, антыканстытуцыйны пераварот не ўдаўся. Каб не зрываць выхад газеты, а магчыма, і дзеля гісторыі мы пакідаем усё, як ёсць».

Заявы Апазіцыі БНФ з асуджэннем ГКЧП — «для гісторыі» — «Звязда» не змясціла.

І ўсё ж у дні путчу мы ўбачылі сваю заяву надрукаванай — у газеце «Свабода», якую рэдагаваў Ігар Германчук. Нумар быў падрыхтаваны яшчэ да путчу, але Віктар Корзун, які вёз нумар, калі ўжо даехаў да друкарні, пачуўшы ў аўтобусе пра путч, звязаўся па тэлефоне з рэдакцыяй і вярнуўся ў Мінск, Сяргей Харэўскі намаляваў карыкатуру, Ігар Германчук скарыстаў запіс нашай гутаркі з Дземянцеем, Сяргей Шупа вычытаў карэктуру — і першая паласа выйшла пад заклікам «Ніякай падтрымкі хунце!».

Магчыма, хлопцы ў «Свабодзе» таксама былі ў шоку, але тое, што яны рабілі, ніяк не назавеш «аняменнем»...

Не анямелі і журналісты ў некаторых афіцыйных рэгіянальных выданнях.

Рэдактар пінскай газеты «Пінскі веснік» (органа гаркама КПБ!) Пётра Сыцін 19 жніўня даручыў журналістам сабраць меркаванні дэпутатаў гарсавета — і ў друкарню пайшоў нумар са зваротам да жыхароў з асуджэннем хунты. «Я і мае калегі не былі ўпэўнены, што нумар дойдзе да чытача, меркавалі, што КДБ увесь наклад можа канфіскаваць яшчэ на выхадзе з друкарні, а таму аддрукавалі для рэдакцыі дадаткова 100 асобнікаў і тут жа забралі. На наша здзіўленне, на наступную раніцу газета паступіла ў кіёскі «Саюздруку», свае асобнікі своечасова атрымалі падпісчыкі», — прыгадваў рэдактар пазней. У той самы дзень, 20 жніўня, Пётра Сыцін аднёс у гаркам заяву аб выхадзе з КПСС.

Позна ўвечары 20 жніўня, фактычна ўжо ўначы, мы з жонкай прыехалі да Алеся і Святланы Лукашукоў. Хацелася проста пабыць у кампаніі, крыху адключыцца, але, натуральна, не атрымалася. Дый наўрад ці ў тыя дні я мог апынуцца ў нейкай кампаніі, дзе не размаўлялі б пра палітыку і не прагназавалі, якія змены чакаюць наперадзе. Мне налілі грамаў сто гарэлкі — каб зняць стрэс. У Лукашукоў была і Вераніка Чаркасава, і , здаецца, яе муж Дзмітрый Філімонаў — яны жылі па суседстве. Дэталяў той начной размовы ўжо не прыгадаю, але памятаю вельмі з’едлівыя характарыстыкі, якія давала Вераніка путчыстам. Праз гады, у эміграцыі, мы былі ўзрушаны паведамленнем пра забойства Веранікі, якая тады працавала ў «Салідарнасці».

Ужо глыбокай ноччу мы выйшлі ад Лукашукоў, развіталіся з Веранікай і, калі дабраліся дадому, уключылі «Свабоду». У Маскве пралілася кроў — пад коламі вайсковай тэхнікі загінулі тры чалавекі.

## Супраціў у Мінску і вырашальная ноч у Маскве

Усяго праз некалькі гадоў пасля путчу будзе ствараціа міф, што ў Беларусі людзі моўчкі пагадзіліся з маскоўскім пераваротам, што не было ніякага супраціву, ніякіх масавых акцый. Пры Лукашэнку падзеі жніўня 1991-га пачнуць замоўчвацца, найперш з імкнення паказаць беларусаў абыякавымі, не здольнымі на рашучыя дзеянні. Мяркую, не апошнюю ролю адыграе і палітыка скажэння інфармацыі пра Беларускі Народны Фронт і яго лідараў.

З папярэдніх старонак гэтай кнігі чытач мог пераканацца, што нязгода з утварэннем і праграмай ГКЧП (прычым — рашучая нязгода, з кваліфікацыяй дзеянняў змоўшчыкаў як дзяржаўнага злачынства) была выказана намі, дэпутатамі Апазіцыі БНФ, ужо ў першыя гадзіны пасля абвяшчэння пра ГКЧП. І адразу быў арганізаваны супраціў, які выявіўся на самых розных узроўнях. Гэта і наш ціск на кіраўніцтва Беларусі (жорсткая гутарка з Дземянцеем, удзел у пасяджэнні Прэзідыума Вярхоўнага Савета з патрабаваннем асудзіць путчыстаў, зварот Пазьняка да сілавых міністраў і генпракурора з патрабаваннем не выконваць загады змоўшчыкаў), і арганізацыя супраціву як мінскімі, гэтак і рэгіянальнымі структурамі БНФ (мітынгі, улёткі і гэтак далей).

Я параўнаў ступень арганізаванага Фронтам супраціву ў Беларусі з тым, што адбывалася ў тыя дні ў іншых рэспубліках былога СССР. Калі не лічыць рэспублікі Балтыі і Грузію, дзе супраць перавароту адразу і рашуча выступіла найвышэйшае кіраўніцтва (але там лідары народных рухаў былі ва ўладзе), дык хіба толькі дзеянні нацыянальна-дэмакратычных сіл ва Украіне можна параўнаць з тым, што было ў нас. У большасці рэспублік сапраўды было ціха.

Безумоўна, лёс ГКЧП вырашаўся ў Маскве. Так, у Мінску на вуліцы выйшла колькасна меней людзей, чым у Маскве, у першы дзень перад Домам ураду сабралася, як я ўжо казаў, некалькі сотняў (можа быць, дзвесце) чалавек.

Але вось сведчанне Барыса Мінаева, аўтара палітычнай біяграфіі Ельцына, пра першую ноч путчу ў Маскве: «Да ночы (першай ночы) колькасць тых, хто сабраўся каля Белага дома, крыху паменшала, паводле майго сябра, які знаходзіўся ў гэты час у Белым доме і званіў мне па тэлефоне: «Тут усяго некалькі сотняў чалавек, ну максімум тысяча» — так бачылася яму сітуацыя з акна будынка» (Борис Минаев, «Ельцин», Москва, 2010).

Калі параўнаць колькасць жыхароў у той час у Маскве і Мінску (9 мільёнаў і 1,5 мільёна адпаведна, пры гэтым не будзем улічваць падмаскоўныя «гарады-спадарожнікі»), дык у прапорцыі атрымліваецца аднолькава. Калі ж улічваць і прадмесці (да цэнтра Масквы ў той час на электрычцы можна было дабрацца за гадзіну, на аўтамабілі — за паўгадзіны), дык Мінск у гэтым сэнсе выглядае лепей.

Але, вядома ж, тыя, хто тады сабраўся вакол Белага дома, у якім знаходзіўся Ельцын, адыгралі выключную ролю. Менавіта дзякуючы ім змоўшчыкам не ўдалося ажыццявіць свае планы. І тут будзе дарэчы працытаваць урыўкі з кнігі тагачаснага генеральнага пракурора Расіі Валянціна Сцепанкова і журналіста Яўгена Лісава «Кремлевский заговор. Версия следствия» (Москва, 1992), дзе аднаўленая храналогія падзей ночы з 20 на 21 жніўня.

20 жніўня група КГБ «А» (больш вядомая як «Альфа») атрымала ад путчыстаў заданне нейтралізаваць Ельцына:

«Паводле ўдакладненага плана дзеянняў група «Б» (асобны навучальны цэнтр КГБ) павінна была «апрацаваць» 1-ы і 2-і паверхі сакрэтнай зброяй велізарнай разбуральнай сілы, — сьведчыць начальнік аддзялення групы «А» Леанід Гумянны. — Пасля такой «апрацоўкі» абодва паверхі перасталі б існаваць. А задача арыштаваць Ельцына, якую паставіў Карпухін (*камандзір «Альфы».* — **С.Н.**), была нерэальнай з той прычыны, што пасля «зачысткі», зробленай намі, усё, у тым ліку і прэзідэнт Расіі, былі б знішчаны...»

Аднак да Белага дома «Альфе» трэба было яшчэ дабрацца. А зрабіць гэта аказалася вельмі праблематычна, бо:

«Удзень, распрацоўваючы аперацыю, ніхто не думаў, што на абарону Белага дома прыйдзе столькі людзей. Па розных крыніцах, да вечара на плошчы перад будынкам Вярхоўнага Савета Расіі ў абароне стаяла ад 50 да 100 тысяч чалавек».

І таму прайсці да Белага дома можна было толькі праз калідор, перватварыўшы жывых людзей у трупы. У гіганцкую колькасць трупаў.

«Узяліся не за рукі, а пад рукі, і вельмі моцна, — прыгадвае тую ноч маскоўская пісьменніца Марыета Чудакова. — І ўсю ноч — прыблізна да чатырох — паловы пятай раніцы — кожныя паўгадзіны з балкона Белага дома нам абвяшчалі, што, па інфармацыі чарговага лазутчыка з шэрагаў КГБ, штурм можа пачацца ў бліжэйшыя 30—40 хвілін. І зноў і зноў прасілі адцягнуцца ад будынку і папярэджвалі, што пры з’яўленні любой групы мужчын з вокнаў Дома будзе распачаты агонь без папярэджання. Мы стаялі шэрагамі, моцна трымаючыся пад рукі.

*(Працяг на стар. 8.)*

Народная Воля http://www.nv-online.info 27 ЖНІЎНЯ 2013 г.

# Дзевяноста першы

*Сяргей НАВУМЧЫК*

## Путч. Супраціў

**Гэты здымак з партрэтам прэзідэнта СССР "Его — сегодня, тебя - завтра" праз шмат гадоў я перадаў Гарбачову. Але справа не ў самім Гарбачове — людзі выступілі супраць спробы сілай умацаваць імперыю і падавіць законнасць.**

*(Пачатак на стар. 7.)*

Напружанасць не сціхала да світанку. Незвычайна для маскоўскага жніўня холадна. Гэткім жа незвычайным было тое, што дробненькі дождж сеяўся ўжо другія суткі, не спыняючыся ні на хвіліну...» (Мариэтта Чудакова, «Егор»).

«Каб знішчыць абаронцаў Белага дома, трэба было зладзіць неверагодную крывавую бойню, перад якой патухлі бы жахі плошчы Цяньаньмэнь, — пішуць Сцепанкоў і Лісаў. — У гэтых умовах штурм, нягледзячы на велізарную перавагу, абярнуўся б значнымі стратамі і для атакуючага боку. Паводле ацэнкі начальніка аддзялення Леаніда Гумяннога, які ўдзельнічаў у рэкагнасцыроўцы, падчас штурму група «А» страціла б 50 адсоткаў асабістага складу. Кожны другі б загінуў...»

Такім чынам, менавіта людзі, што сабраліся вакол Белага дома (сярод іх, між іншым, былі і жыхары Беларусі), не дазволілі захапіць кіраўніцтва Расіі, што ў выніку, уключна з іншымі фактарамі, прывяло да паразы ГКЧП.

### Дземянцей і мыла

21 жніўня стаў апошнім днём путчу.

Пазней Мікалай Дземянцей будзе казаць і нават напіша ў сваіх мемуарах, што перад пачаткам сесіі (насамрэч — у дзень правалу путчу, 21 жніўня, у 16 гадзін) да яго «ў працоўны кабінет зайшла група дэпутатаў ад апазіцыі на чале з З.Пазьняком і С.Навумчыкам": "Двое апошніх папярэдзілі мяне, каб я не выступаў за захаванне Саюза ССР, інакш можа здарыцца непрадбачанае. Я пажартаваў: «Павесіце на вяроўцы бяз мыла?» Яны збянтэжыліся і, сказаўшы нешта няўцямнае, сышлі...»

Гэтак піша ў мемуарах Дземянцей — відавочна, па памяці. Я ж занатоўваў тую гутарку ў кабінеце Дземянцея, як пазней будзе звычкай казаць, «у рэжыме рэальнага часу».

Вось як усё выглядала насамрэч.

Нас было чацвёра: акрамя Пазьняка і мяне былі яшчэ Валянцін Голубеў і Юрась Беленькі. Пра «саюзны дагавор» у запісах няма, але зусім магчыма, што фразу такую я проста не паспеў запісаць, ну а «непрадбачанае» тычылася б, вядома, не лёсу Дземянцея, а лёсу Беларусі, якая ўцягвалася імперскімі гульнямі ў небяспечныя працэсы. Вядома, у нашых словах ніякіх пагроз фізічнай расправы не было, як не было і збянтэжанасці і няўцямнасці: Пазьняк у канцы зрабіў Дземянцею абсалютна канкрэтную прапанову.

«***Дземянцей:*** Добры дзень!

***Пазьняк:*** Добры. Шаноўны Мікалай Іванавіч, мы да вас ужо не першы раз заходзім, і мы зварот ад дэпутатаў Апазіцыі вам абавязаны ўручыць. Вось, калі ласка, прачытайце...

***Дземянцей:*** Вы прысаджвайцеся.

***Пазьняк:*** Не трэба.

***Голубеў:*** Ведаеце, якія звесткі ідуць па цэнтральным радыё? Ведаеце?

***Дземянцей:*** Не...

(Якраз у гэтым месцы Дземянцей звярнуўся да мяне са словамі кшталту: «Ну што, будзеце цяпер вешаць мяне? А вяроўка будзе з мылам ці без мыла?»)

***Навумчык:*** Мы ніколі не заклікалі да пятлі...

***Дземянцей:*** Ну, добра... З мылам, бяз мыла...

***Навумчык:*** Ніколі не заклікалі да пятлі.

***Дземянцей:*** Ну, я з вамі таксама вельмі ветліва, ветліва...

***Пазьняк:*** Мікалай Іванавіч, калі вам хочацца пагаварыць, то а 18-й гадзіне мы можам пагаварыць тут, на плошчы. Калі ласка, мы вас запрашаем...

***Дземянцей:*** Дзякуй...»

### «Калі добрыя камуністы аб'ядноўваюцца — ператвараюцца ў банду»

Натуральна, на мітынг Дземянцей не прыйшоў. Патрабаванне ягонай адстаўкі гучала ў выступоўцаў як адно з галоўных.

***Валянцін Голубеў:*** «Спадара Дземянцея дэпутаты Апазіцыі папярэджвалі некалькі разоў, што ён не павінен падтрымліваць путчыстаў, што ён павінен выказаць пратэст супраць таго, што робіцца, а калі ён баіцца, хай скліча сесію Вярхоўнага Савета. Дэпутаты скажуць усё, а калі не ўсё, то скажа Апазіцыя. Я хачу сказаць, што мы выступалі за адстаўку гэтага Прэзідыума, мы выступалі за роспуск гэтага Вярхоўнага Савета і зараз, ці будзе чарговая сесія, ці нечарговая, будзем выступаць за адстаўку ў першую чаргу Дземянцея. Верыць такому чалавеку я не магу і думаю, што вы не можаце. Людзі! Добра, што мы ўсе разумеем, што наша будучыня — у незалежнасці, калі мы станем усе вольнымі, калі мы станем поўнасцю незалежнымі, то выберам таго, хто нам трэба, тых людзей, у каго мы верым, і толькі будзем спачуваць тым краінам і рэспублікам, у якіх камуністы змогуць што-небудзь зрабіць. А ў нас гэтага не павінна быць. Жыве Беларусь!»

Стэнаграма таго мітынгу 21 жніўня перадае эмацыянальны настрой людзей, але эмоцыі не перашкодзілі выступоўцам ужо тады зрабіць дакладны аналіз і на дзіва трапны прагноз.

***Пётра Садоўскі:*** «Дарагія людзі (*у стэнаграме пазначана: «Прамоўцу цяжка гаварыць, бо душаць слёзы»*). ... Прабачце, мужчыны. Далібог, нешта са мной здарылася... А я хацеў бы праінфармаваць вас яшчэ раз, што ў нас адбыўся пэўны зрух, у гэты цяжкі час пазнаюцца людзі, і ў Прэзідыуме Вярхоўнага Савета таксама адбыўся пэўны зрух... У нас сем членаў Прэзідыума, у тым ліку па альфабэце: Булахаў, Карпенка, Курдзюкоў, Садоўскі, Слямнёў, Сасноў і Шушкевіч — падпісалі заяву, паводле якой... даюць прававую ацэнку таму, што адбылося, і лічаць неабходным сабраць Вярхоўны Савет неадкладна, каб усе дэпутаты паказалі свой твар, сваю думку...»

***Сяргей Папкоў:*** «Настаў час, калі ўсе прадпрыемствы сапраўды павінны стаць уласнасцю нашай Беларусі, нашай незалежнай Беларусі, і гэта будзе наш уклад у стварэнне незалежнай інтэлектуальнай Беларусі. У нас хапае інтэлекту жыць самім не па ўказцы нейкіх там «цэнтраў» і гэтак далей, не пад кіраўніцтвам ніякіх хунтаў. Я заклікаю вас, я таксама буду працаваць у гэтым накірунку. Каб наша Беларусь, маючы такі магутны інтэлект, усё ж стала свабоднай дзяржавай. Жыве незалежная Беларусь!»

***Сяргей Антончык:*** «Мы можам сказаць пра нашую перамогу толькі тады, калі Беларусь будзе вольная ад камунізму. Таму што гісторыя паказвае, што дэмакратыя і камунізм несумяшчальныя. Паталагічнай нянавісці няма да камуністаў, таму што сярод іх, асабліва сярод шараговых камуністаў, ёсць шмат нядрэнных людзей. Але раптам гэтыя нядрэнныя людзі аб'ядноўваюцца ў адну арганізацыю і ператвараюцца ў самую сапраўдную банду. Небяспечней за КПСС для нас цяпер няма, няма і няма. КПСС, менавіта КПСС. Калі мы не зможам скарыстаць сённяшнюю іхнюю разгубленасць, калі не дакажам ім, урэшце не зразумеем усе, што, не адхіліўшы КПСС, мы не прыйдзем да свабоды, калі сёння мы будзем заклікаць да таварыша Гарбачова як да пакутніка, я думаю, што мы далёка не дойдзем у сваёй барацьбе за дэмакратыю. Мы не абараняем Гарбачова, мы абараняем свае права, сваю свабоду. Дзякуй за ўвагу! Мінскі страйкам будзе дзейнічаць і далей».

***Барыс Гюнтэр:*** «Вы цудоўна разумееце, што путч, які адбыўся ў Маскве, нарадзіўся ў ЦК КПСС. Гэта самае галоўнае. Вы цудоўна ведаеце: Саюз, бальшавіцкі рэжым замешаны на крыві, пачынаючы з 1917 года».

***Вера Цэрлюкевіч:*** «Дарагія мае землякі-беларусы! Мне вельмі шкада, што я не магу размаўляць на сваёй роднай мове. Я выхоўвалася на Каўказе, так скляліся мае абставіны жабрацкага майго жыцця. Таму я не навучылася размаўляць па-беларуску. У свае пяцьдзясят гадоў прыкладу ўсе намаганні і хоць перад смерцю, але навучуся. Мілая мая Беларусь! Я вельмі рада, што такое здарылася, што самазванцы пацярпелі крах. Як яны прыйшлі да гэтай улады з ганьбай, гэтак яны з ганьбай і праваліліся. Я два дні, шчыра вам скажу, не спала. Я старшыня страйкавага камітэта Трактарнага завода. І я вельмі ўдзячна страйкамаўцам горада Мінска. Гэта людзі моцныя духам, яны верылі ў перамогу нашага народа, нашага страйкама... У мяне вялікі калектыў — 1200 чалавек — абраў страйкам. Я ганарылася гэтым, я сёння таксама клеіла ўлёткі на будынку КГБ, я ні пра што не думала (*воплескі*). Але калі кагэбісты падышлі і пачалі пераконваць, я сказала: «Вы таксама хунта! Паколькі спрыяеце і падтрымліваеце».

***Зянон Пазьняк:*** «Паважаная грамада! Яшчэ ідуць працэсы, дзеля якіх мы тут сабраліся. А ўжо можна рабіць высновы, я пастараюся зрабіць некалькі з іх, таму што Народны Фронт і дэмакратычныя лідары гаварылі пастаянна, з 1988-га года, вы памятаеце, што, пакуль будзе камуністычны рэжым у Беларусі, не будзе ніякай дэмакратыі, ніякіх рэформаў і ніякай свабоды. Слухалі, кожны думаў па-свойму. І вось гісторыя пацьвярджае правільнасць гэтых слоў. Другое, што гаварылася пастаянна і над чым мы пастаянна думалі. Пакуль мы не будзем свабоднымі, пакуль не будзем мець незалежнасць і суверэнітэт — не будзем мець ні рэформаў, ні паляпшэння жыцця, ні развіцця культуры — нічога. Таму што гэты путч — растаптанне. Яны імкнуліся растаптаць наш гонар, наша ўсведамленне незалежнасці. Яны не лічыліся з намі, мы не маем нічога, ні законаў неабходных канстытуцыйных, бо Дэкларацыя — гэта толькі дэкларацыя. Мы не маем нашага войска, мы для іх ніхто, мы для іх — гразь. Яны так з намі і хацелі абысціся. Мы павінны рабіць з гэтага высновы. Трэцяя выснова, якую мы можам зрабіць. Некалі Вальтэр казаў, што мне не падабаецца, што вы гаворыце, але я гатовы аддаць жыццё за тое, каб вы мелі права гэта сказаць. Гэта прынцып дэмакратыі, прынцып свабоды чалавечай, павагі. Паважаць чалавека — гэта значыць прымаць чалавека такім, які ён ёсць. Мы не падтрымліваем палітыкі Гарбачова, мы ведаем, як яна правалілася. Яго палітыку з Чарнобылем, яго праімперскую палітыку з Савецкім Саюзам. Усё гэта мы крытыкавалі і паказвалі, але калі да ўлады вырашыла прыйсці крывавая хунта бандыцкімі метадамі, то справа ўжо не ў палітыцы Гарбачова, а справа ў легітымнасці яго ўлады. Справа ў дэмакратычных прынцыпах, дзеля якіх мы змагаемся і жывём. Можа стацца так, што хунта, напэўна, пацерпіць паразу. Я памыліўся, я казаў, што пратрымаюцца максімум тыдзень, але пратрымаюцца яны менш. Дык вось, на гэтай хвалі, калі былі ўжо чалавечыя ахвяры і калі столькі разоў было напружанне, можа здарыцца так, што саюзны дагавор, які нам пятля на шыю, будзе прыняты «на ўра»... Я хацеў бы засцерагчы нас усіх. Таму што мы павінны памятаць, што гарбачоўская — гэта адна група, а гэтая, якая прыйшла і хацела прыйсці, — гэта другая група, яны аднаго кораня, толькі адны бандыты крымінальныя, а другія — як кажуць, мафія партыйная... Я хачу з вамі падзяліцца сваёй інтуіцыяй. Яна мяне не пакідае ўсе гэтыя тры дні, і чаму хачу падзяліцца — таму што многія мае калегі выказваюць тое, што думаю я. Шаноўныя людзі, мяне не пакідае адчуванне нейкай д'ябальскай змовы. Вось і сёння што адбываецца... Нешта тут нячыста, нешта было прадугледжана. А вы будзьце асцярожнымі, хунта пойдзе, яны будуць асуджаны, але будзем асцярожныя, каб тыя, што вялі нас у пятлю, у смерць ад Чарнобыля, вялі нас у пятлю гэтага каланіяльнага дагавора, каб яны пад наша «ўра» не завялі ў тупік...»

Гэтыя інтуітыўныя меркаванні Пазьняка наконт «д'ябальскай змовы» потым, праз гады, неаднойчы пацвярджаліся ў выказваннях некаторых членаў ГКЧП, што Гарбачоў нібыта ведаў загадзя пра ўвядзенне надзвычайнага становішча і нават даў «дабро» змоўшчыкам, але потым адмовіўся ад падтрымкі путчу. На карысць такой версіі прыводзяць і словы самога Гарбачова на прэс-канферэнцыі ў першыя ж дні пасля путчу: «Усёй праўды я вам усё роўна не скажу». Як там было насамрэч (мне ўсё ж падаецца, што Гарбачоў не меў дачынення да арганізацыі перавароту), пэўна, застанецца адной з таямніц XX стагоддзя.

Але тое ўжо частка расійскай гісторыі.

Для беларусаў жа ГКЧП, кім бы ён ні ініцыяваўся, быў вялізнай пагрозай. Узнікла небяспека ліквідацыі ўсіх дэмакратычных свабод, якіх мы з такой цяжкасцю дамагаліся, і галоўнае — у выпадку перамогі путчыстаў Беларусь не хутка здолела б вырвацца з імперыі.

Зрэшты, і ажыццяўленне планаў Гарбачова падпісаць «саюзную дамову» (цырымонія, нагадаю, планавалася на 20 жніўня, ды путч перашкодзіў) не сумяшчалася з нашым імкненнем бачыць Беларусь вольнай.

Адразу пасля мітынгу мы прыступілі да падрыхтоўкі нечарговай сесіі Вярхоўнага Савета, на якой трэба было дамагчыся незалежнасці.

Дамагчыся якімі заўгодна мірнымі сродкамі.

І якім заўгодна коштам.

*(Працяг будзе.)*

---

ЖЫВАЯ МОВА

## Пыл і пал

Цэнтральная беларуская газета раіць: *"Праяўляючы службовы пыл, не забывайцеся, калі ласка, на звычайныя радасці жыцця"*. Нейкі час назад на старонках той самай газеты я чытаў пра палюбоўнікаў *"у пыле кахання"*. Вядома, усе гэтыя вынаходкі — *і службовы пыл, і пыл кахання* — чысты нонсэнс. Газетныя аўтары раз-пораз лучаюць у пастку міжмоўнай аманіміі: ёсць беларускі пыл, а ёсць расійскі, але значэннямі яны не супадаюць. Каб памянёныя сказы займелі сэнс, патрэбны іншыя беларускія словы.

Нехта напоўніцу аддаецца рабоце, палае, гарыць жаданнем зрабіць яе як найлепей — можам сказаць, што той чалавек працуе *з запалам, старанна, гарліва, заўзята.* Поруч з назоўнікам *запал* ёсць і карацейшы *пал* — вытокі абодвух назоўнікаў у дзеяслове *палаць.* Як з *палам,* так і з *запалам,* у запале нешта некаму даводзім, нечага дабіваемся, нечым займаемся.

Вось жа, гаворым па-беларуску пра *службовы* ***запал***, пра ***запал,*** або ***пал,*** ці яшчэ — ***жар*** *кахання.*

**Юрась БУШЛЯКОЎ.**

## «Чижовка-Арену» откроют 7 ноября

Чиновники надеются, что через 4—5 лет спортивно-развлекательный комплекс «выйдет на самоокупаемость".

*«Зарабатывать деньги будем на каждом квадратном метре»,* — заявил генеральный директор хоккейного клуба «Юность-Минск» Эдуард Зотов. — *Около 30 процентов поступлений составят доходы от общественного питания, 70 процентов — от платных услуг, в том числе массового катания, занятий в фитнес-залах и тренажерных залах. Расходы на содержание объекта составят около 60 млрд рублей в год».* Зотов добавил, что на 50-процентную окупаемость объект планируется вывести уже в следующем или в 2015 году.

---

СУСТРЭЧЫ

*Галіна ПУШКІНА:*

## "Мы ігралі ў саборы, дзе тварыў Мікельанджэла"

Нядаўна мне пашчасціла сустрэцца з вельмі цікавым чалавекам, таленавітым музыкантам Галінай Пушкінай. Галіна Барысаўна жыве ў Лідзе, працуе загадчыкам вытворчай практыкі Лідскага дзяржаўнага музычнага каледжа і адначасова з'яўляецца кіраўніком аркестра беларускіх народных інструментаў.

**— Галіна Барысаўна, колькі часу існуе ваш аркестр?**

— З 1984 года.

**— А вы даўно яго ўзначальваеце? Раскажыце, калі ласка, пра гэты музычны калектыў больш падрабязна.**

— Я кірую аркестрам сем гадоў. У ім 30 чалавек. Гэта навучэнцы і выкладчыкі. Мы іграем творы розных стыляў і жанраў, розных эпох, але акцэнт робім на творах беларускіх кампазітараў, бо асноўная задача нашага калектыву — прапаганда беларускай музыкі, нашай непаўторнай культуры.

**— Было б цікава даведацца, хто найдаўжэй удзельнічае ў аркестры?**

— Ёсць людзі, якія, так бы мовіць, стаялі ля самых вытокаў, але, каб нікога не пакрыўдзіць, называць не буду. А вось пра аднаго проста не магу не сказаць. Гэта наш шаноўны Уладзімір Пятровіч Дубіцкі. Ён не толькі таленавіта іграе, але і рамантуе нашы інструменты, што называецца, дае ім другое жыццё. Нізкі паклон яму за гэта, бо выконвае вялікі аб'ём работы. У нас жа і беларускія цымбалы, і баяны, і дудкі, кларнеты, ударныя і іншыя музычныя інструменты.

**— А якія творы іграеце цяпер?**

— Творы беларускіх кампазітараў: Генадзя Ярэмчанкава, Вячаслава Кузняцова, Аляксандра Крамко. Варта адзначыць, што мы падтрымліваем цесную сувязь з Нацыянальным акадэмічным народным аркестрам імя Жыновіча. Тамтэйшыя музыканты дапамагаюць нам складаць рэпертуар. Шчыры дзякуй ім за падтрымку і дапамогу!

**— Напэўна, ваш аркестр пабываў на нейкіх конкурсах, мае творчыя перамогі?**

— Не на нейкіх, а на вельмі прэстыжных. Напрыклад, у мінулым годзе нас запрашалі на міжнародны фестываль у Браціславу. У ім удзельнічалі музыканты з дзесяці краін Еўропы. З Беларусі мы былі адны. У гэтым конкурсе мы занялі першае месца, і адразу ж члены журы запрасілі нас на сусветны конкурс, які гэтым летам праходзіў у італьянскай Фларэнцыі.

**— Здарова! Ездзілі?**

— Нядаўна вярнуліся адтуль. Уражанні, што называецца, зашкальваюць. І сама Фларэнцыя, і гэты прэстыжны конкурс! У ім удзельнічалі музыканты з Паўднёвай Амерыкі, Афрыкі, Еўропы, Азіі... Словам, з усіх кантынентаў. Мы ігралі ў саборы, дзе некалі тварылі славуты Мікельанджэла, Леанарда да Вінчы, Дантэ! Уяўляеце, якая была аўра, якія пачуцці мы зведалі?! Дык вось на гэтым конкурсе мы таксама занялі першае месца.

**— Ого!**

— Так. І нас адразу запрасілі выступіць у Санкт-Пецярбургу, Бельгіі і Паўночна-Афрыканскай Рэспубліцы. Праўда, туды трэба ехаць не сёлета, а ў наступным і ў 2015 годзе.

**— Паедзеце?**

— Вельмі хочацца паехаць. Але ўсё, так бы мовіць, упіраецца ў фінансы. Мы ж ездзім за свае грошы. Гэта выкладчыкі, а навучэнцы — за грошы сваіх бацькоў. І сума не абы-якая. Я ад шчырага сэрца дзякую ўсім бацькам, якія знайшлі грошы на паездку сваіх дзяцей на такія прэстыжныя конкурсы ў Браціславу і Фларэнцыю. Вельмі спадзяюся, што і надалей будзе так, бо спонсараў я так і не знайшла, хоць вельмі шукала. Бацькі зразумелі мяне і дапамаглі. Яны зрабілі цудоўны падарунак сваім таленавітым дзецям, якія пабачылі свет, паглядзелі, як жывуць людзі, памераліся творчымі сіламі з музыкантамі з розных краін і кантынентаў. У жыцці ім гэта вельмі спатрэбіцца, я не сумняваюся.

**— Ваш аркестр, напэўна, прывёз узнагароды з такіх прэстыжных конкурсаў?**

— Так. У Браціславе нас узнагародзілі Кубкам і дыпломам за самыя лепшыя дасягненні, а ў Фларэнцыі — медалём і таксама дыпломам.

**— Віншую ад шчырага сэрца! А ў нашай краіне як уганаравалі вас за такія выдатныя музычныя перамогі на сусветным узроўні?**

— А ніяк...

**— Што называецца, без каментарыяў... Жадаю вам, Галіна Барысаўна, і вашаму слаўнаму калектыву вялікіх поспехаў, натхнення, новых перамог! А яшчэ мужнасці і цярпення...**

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**
*г.Ліда.*

---

ЧУЛІ?

## За рэкламу на грошах — у суд!

*За распаўсюджванне рэкламы на банкнотах мінскаму фатографу пагражае штраф.*

Мінгандлю мае намер прыцягнуць **Аляксея Акімава** да адміністрацыйнай адказнасці за рэкламу на грашовых купюрах. Чыноўнікі ўзброены законам — фатограф парушыў Закон «Аб рэкламе», а значыць, павінен панесці пакаранне. Хутчэй за ўсё прадпрымальніку прыйдзецца заплаціць.

Зараз Міністэрства гандлю вядзе асабістае расследаванне, каб высветліць усе акалічнасці правапарушэння.

---

ШАХМАТЫ

# Из шахматной классики

Я.Добрусский

**Белые:** Kpb7, Фg4, Лd4, Cd8, пп. b4, c4, d2 (7).
**Черные:** Kpe5, Лf2, Ce7 (3).
**Мат в 2 хода.**

Предлагаем вниманию читателей двухходовую задачу выдающегося мастера шахматной композиции, одного из основоположников чешской школы Яна Добрусского (1853—1907). Попробуйте найти ее решение. Свои ответы присылайте по адресу: **220030, Минск, ул.Энгельса, 34а, редакция газеты «Народная Воля», «Шахматы».**

### Сенсация от Александра Кочеева

В Минске на спортивной базе Республиканского центра олимпийской подготовки по шахматам и шашкам прошел традиционный Международный шахматный турнир «Minsk Open 2013». В нем приняли участие 128 спортсменов. 95 представляли Беларусь, 16 — Россию, 9 — Украину, 4 — Армению, 2 — Латвию и один — Италию. Соревнования проводились по швейцарской системе в 9 туров. Среди участников было 10 международных гроссмейстеров и 10 международных мастеров. Но вопреки прогнозам никому из них не удалось выиграть первый приз. Блестяще играл минчанин, 21-летний кандидат в мастера Александр Кочеев. Проведя турнир без поражений, он набрал 7,5 очка в 9 встречах и сумел опередить всех конкурентов. Наградой был приз в 25 миллионов рублей и выполнение нормы гроссмейстерского балла! На пол-очка от победителя отстали сразу шесть спортсменов. По дополнительным показателям места распределились так: 2.гроссмейстер Андрей Жигалко (Минск), 3.международный мастер Виталий Бернадский (Украина), 4.гроссмейстер Михаил Бродский (Украина), 5.гроссмейстер Ховханес Габузян (Армения), 6.международный мастер Владислав Ноздрачев (Россия), 7.международный мастер Александр Бортник (Украина). По 6,5 очка набрали четверо участников. Восьмое место было присуждено 19-летнему минчанину Владиславу Ковалеву, 11-е — международному мастеру Валерию Смирнову (Минск).

Среди женщин призерами стали международный мастер Марина Романько (Россия) — 6 очков, 19-е место, и Ангелина Узловатая из Бреста.

Среди ветеранов лучший результат показали кандидаты в мастера Геннадий Шеходанов — 5 очков и Эдуард Андреев (оба из Минска), набравшие по 5 очков.

### Серебро ветеранов

В Дрездене (Германия) прошел командный чемпионат Европы по шахматам среди ветеранов. Успешно выступила в турнире белорусская команда, завоевавшая серебряные медали. В ее составе играли гроссмейстеры Вячеслав Дыдышко, Виктор Купрейчик, международный мастер Евгений Мочалов (все из Минска), мастер спорта Владимир Веремейчик (Гродно) и кандидат в мастера Владимир Обламский (Минск).

### Поправка

Задачу В.Сычова, опубликованную в номере за 6 августа, следует решать с белой пешкой на e4.

---

И ТАК БЫВАЕТ

## Рикошет

Жительница деревни Ведрич Речицкого района решила расправиться с бездомным котом, который повадился душить цыплят на ее участке. Пенсионерка попросила 60-летнего охотника-соседа застрелить животное. Тот взял ружье, прицелился... И вот тут все пошло не по плану.

Кот сидел на заборе, разделявшем участки охотника и женщины, у которой пропадала птица. Грянул выстрел, кот был застрелен, но часть дроби срикошетила и попала «заказавшей» животное пенсионерке в лоб. Пожилую женщину доставили в Речицкую районную больницу с огнестрельными ранениями головы и грудной клетки. Раны оказались несерьезными, и пенсионерку вскоре отпустили домой.

Как сообщает РУВД Речицкого района, мужчина имел право на хранение оружия и охотничий билет. На него был составлен протокол по статье «стрельба в населенном пункте», охотнику грозит штраф.

---

**Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл. (017) 3286871. Тэл./факс рэкламнага аддзела: (017) 3286904, 3286906 nv@promedia.by http://www.nv-online.info http://twitter.com/narodnaya_volya**

ISSN 2071-9647

9 772071 964000 13067

**Падпісныя індэксы: 63222, 632222**

**Першы намеснік галоўнага рэдактара Святлана Міхайлаўна КАЛІНКІНА.**

**У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай.**

**Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 26.08.2013 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 26400 экз. Заказ №3404.**